

ДОМ З САЛАМЯНЫХ БЛОКАЎ с.13

З любоўю да ўлоння

1997 №2(5)

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета · Двухмесячнік

**Чарнобыльскі шлях`97**

**Чарнобыль перасцерагае: атам не можа быць мірным — гэта заўсёды пагроза жывому, гэта перспектыва смерці. Паміж трагедыяй войнаў і чарнобыльскім нашэсцем не трэба шукаць прыкметаў падабенства: яны відавочныя. 10 гадоў Беларусь знаходзіцца ў стане вайны.** с.4-5

*А ты дрэва пасадзіў?*

**Першы, каго спыталі, быў шырока прызнаны палітык з "белавежскім" мінулым прафесар Станіслаў Шушкевіч.** с.12

**Вазьмі ў дуба, аддай Вярбе** с.16

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК**




Серыя "Аўтограф"

**Хочаш змяніцца і змяніць свет да лепшага — сядай на ровар!**



с.14



*Ацалелыя рэшткі прыроды як поклад пакінь для нашчадкаў*

с.3

**Пакінем запалкі дома!** с.14

## Зялёная радасць

Слова рэдактара



*Фота: Лявон Кісялёў*

Ішоў па вуліцы блізу Праспекта Скарыны ў Мінску. Сонца ўжо трывала асталявалася ў гарадскіх кварталах і каторы дзень несла людзям святочны настрой, раздорвала ўсмешкі. Нават старыя, тупаючы па чысценькіх тратуарах, шчасліва жмурыліся, маладзелі абліччамі ў прадчуванні прыліваў цяпла і лагоды. Свет на вачах рабіўся дабрэйшы і для старога і для малога.

"Зялёны, зялёны!.." — крычалі вясёлыя хлапчукі, калі на светлафоры дарожнага перахода загарэлася зялёнае вока. Мінск, асабліва ў часіну зімова-вясновага міжсезоння, — горад шэрага колеру, горад асфальта-бетону, таму заўсёды прыемна ісці на зялёны сігнал светлафора.

Ён падміргвае добрай надзеяй — надзеяй на хаду, на рух дабратворных сіл у прыродзе, на вясновае абнаўленне... І тут раптам — такі голасны хлапчукоўскі вокліч: "Зялёны!.." Як абвяшчэнне вясновага шэсця, зялёных штандараў, блакітных дажджоў і паўднёвага ветру. "Зялёны!.."

Мне падалося гэта сімвалічным і ўсцешным: няхай жыве і трыумфуе на нашай зямлі зялёны свет.

Як бы мне хацелася, каб і тыя гарластыя хлапчукі, і ўсе мы — да аднаго — жыхары Беларусі зноў адчулі "зялёную" радасць жыцця, радасць памкненняў — наперад, да новага кроку, да свайго ўдасканалення, годнасці й славы..

Гэтая радасць пабуджае і да волевыяўлення. Чалавек пасля зімы хоча адчуваць пад сабою грунт, ведаць, што ён стаіць на сваёй роднай зямлі, што ён на ёй гаспадар, а не прыблуканы з цэлага свету. Зялёная радасць Бацькаўшчыны зырка б'е ў вочы, лагодзіць думкі і твар, поўніць энергіяй жылы. Зялёны луг, зялёны гай, зялёны лес, зялёны шум, зялёны шчыт... На тое вясна. На тое і сок у магутных ствалах, якія не зломіш.



*Валерый Дранчук*

**Ч**ытачы пытаюцца, хто фінансуе газету. Адказваем: ніякіх сталых крыніц фінансавання газета не мае, выпускі ладзяцца за кошт самарэалізацыі, кароткачасовых пазык і поўнай адсутнасці штату і памяшкання. Дарэчы, з'яўленне падпісчыкаў абяцае нам хай невялікую, затое прыемную частку даходаў. Са свайго боку рэдакцыя тужэй "зацягвае папругу" і пакідае кошт на другое паўгоддзе ранейшым — 18 тыс. рублёў. Мяркуем, гэта не зменшыць, а хутчэй павялічыць "прыемную частку" нашых даходаў, нягледзячы, што выдаткі на выпуск газеты ў параўнанні з пачаткам года ўзраслі ледзь не ўдвая.

**З**ычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання, таму зважаем: прачытаў — перадай другому, падпісаўся — пераканай іншага.

Да спаткання ў чэрвені.

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", надпісны індэкс 63267*
*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*
*Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская. 38-16*
*Тэл. (0172) 36-50-76*

*Published on the initiative of the Green Informatioh Agency "Nerush-press".*
*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*
*Contact: Ivanovskaya St. 38-16*
*2200088 Minsk Belarus*



# Еўрапейскі безвізавы фэст, магчыма, адбудзецца ў Белавежскай пушчы

## Прыканцы стагоддзя сюды з`едуцца сотні людзей, каб выказаць надзею на свабодны трансфер чалавечых каштоўнасцяў

Калі гавораць пра дзяржаўныя межы і мноства працэдур па іх пераадоленні, маюць на ўвазе надзейнасць кардонаў перад магчымаю небяспекай. Але пры гэтым, як правіла, па-за ўвагаю застаюцца нязрынутыя бар'еры на шляху дабра, чалавечых зносін, культурнага абмену.

Сход тысячагоддзя схіляе на тое, што ўсе мы павінны адчуць мудрасць нажытага досведу пакаленняў, стаць па-над тлумам мітрэнгі, інертнасцю, скінуць цяжар падазронасці й недаверу адзін да аднаго. Нарэшце, успомніць пра вялікае ды вечнае – тое, што лучыць людзей, дорыць цяпло і надзею, дапамагае знайсці ў сабе грунт за наступнасць – сваю і дзяцей. Гэта культурны набытак народаў, свет творчасці, духоўны скарб.

Выкладаючы матывы магчымага правядзення Еўрапейскага безвізавага фестывалю, кіраўнік Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў Мінску спадарыня Вера Багальянц вылучае колькі істотных момантаў свайго праекта.

"*Фестываль*,— гаворыць яна,— *як бы вянчае другое тысячагоддзе сустрэчай людзей без віз, што само па сабе ёсць знакам асобага кшталту – віза для творцаў, людзей мастацтва азначае найперш граніцы, кардон. І цэнтр Еўропы, які палягае на беларуска-польскім памежжы, калі не ў самой Белавежскай пушчы, — тут надзвычай да месца, бо хочацца бачыць Еўропу без межавых перашкодаў. Сама задума, ідэя сустрэчы дыктуе і адпаведныя анонсы: як мастакі, творцы вызнаюцца ў справах навакольнага асяроддзя, духоўных дачыненнях, у пытаннях камунікацый. Маючы асаблівае бачанне свету, яны, вядома ж, не прымаюць яго перагароджаным бар`ерамі з калючага дроту. Яны, бадай, першыя, і як ніхто іншы, выяўляюць кожны сваімі сродкамі надзею на свабодны трансфер матэрыяльных і – асабліва – нематэрыяльных каштоўнасцяў, на пераадоленне эканамічных перагародак. Гэтую надзею яны пасяляюць у душах людзей, сваіх суайчыннікаў. У гэтым сэнсе бачыцца не рэвалюцыя, а менавіта надзея на свабодны абмен, перш-наперш у пытаннях зберажэння прыроднага асяроддзя, дзе, як вядома, межаў і "візавага рэжыму" не існавала і не існуе.*"



***Вера Багальянц:***

**"Бачыцца не рэвалюцыя, а менавіта надзея на свабодны абмен, перш-наперш у пытаннях зберажэння прыроднага асяроддзя"**

Годнасць ідэі бясспрэчная. Яна прыгожая, сімвалічная і змястоўная. Яшчэ толькі ў словах, а пабліскvae ўжо гранямі адметнай падзеі (цьфу-цьфу, не сурочыць!). Спадарыня Багальянц гаворыць, што ейны праект абмяркоўваўся з некаторымі калегамі і сябрамі з Германіі, а таксама Польшчы, Расіі, Прыбалтыкі. Называючы краіны, яна згадвае прозвішчы вядомых людзей – палітыкаў, культуразнаўцаў, эколагаў, якія далі сваё "дабро" і ўжо гатовыя браць асабісты ўдзел у ажыццяўленні праекта. Не сакрэт, што задума ўяўляецца цудоўнай настолькі, наколькі запатрабуе і намаганняў, таленавітага ўвасаблення, вялікіх арганізатарскіх здольнасцяў.

*На беларуска-польскай мяжы: улонне Пушчы і калючы дрот. Сярод рэдкіх "парушальнікаў" часцей за ўсё бываюць лясныя жыхары. Цяжка паверыць, але сведкі даводзяць, што высокую агароджу часам рашуча пераадольваюць казулі — іхні адчайны палёт і фантастычны, і трыумфальны.*

*Тут, на шматкіламетровай дзялянцы мяжы тоіцца шмат нязвыклага, няўлоўнага і істотнага. Нямала таямніцаў-падстаў і для філасофскага роздуму, асабліва на фоне апошніх "інтэграцыйных" падзей у Маскве. Калі няма мяжы з Усходу, дык чаму яна паўстала тут, на заходніх рубяжах, паміж Беларуссю і Польшчай, паміж Беларуссю і Еўропай. Зрэшты,перад першай кветкай вясны гэтае пытанне камусьці можа падацца не зусім дарэчы.*

*Сакавік, 1997.*



*Фота: Валерый Дранчук*



Калі ўважыць, што Белавежская пушча ёсць нацыянальным здабыткам перш-наперш Беларусі і Польшчы, а канец тысячагоддзя наступіць не заўтра раніцай, пытанні канкрэтнага месца і часу застаюцца пакуль што адкрытымі. Хутчэй за ўсё гэта можа быць польска-беларускае памежжа. А найпрыдатны час выпадае, бадай, на лета-99.

На пытанне, чаму перавага аддаецца Белавежскай пушчы, Вера Багальянц адзначыла яе сусветную вядомасць, геаграфічнае размяшчэнне і асаблівае месца ў сістэме чалавечых каштоўнасцяў на рубяжы стагоддзяў. *"Я мяркую, што Белавежская пушча – адметны помнік прыроды, разам з тым паказальна і тое, што людзі яго падзялілі мяжой. Гэта толькі падкрэслівае актуальнасць і прыдатнасць Белавежскай пушчы як унікальнага месца сустрэчы."*

Калі праект адбудзецца, сюды з'едуцца прадстаўнікі культур, творчых школ, плыняў, перш-наперш заклапочаных пошукам духоўнасці культурнага развіцця. Рамкі фестывалю не будуць цеснымі для мастацкіх выставаў, пленэраў, тэатральных відовішчаў, кінапаказаў, конкурсаў, дыскусій і г.д. "Каранёвая сістэма" Белавежскай пушчы дапаможа ўдзельнікам не толькі азірнуцца назад, паглядзець у глыбіню стагоддзяў, але таксама ўбачыць будучыню культурнага супрацоўніцтва народаў, духоўнага ўзбагачэння".

*"Я, магчыма, ўжо не буду працаваць у Мінску, але на фестываль у Белавежскую пушчу спадзяюся прыехаць. Гэты раз без візы"* – усмешліва кажа на развітанне Вера Багальянц і жадае нашай газеце зрабіць важкі ўнёсак у рэалізацыю праекта безвізавага фестывалю.

SUMMARY

***European visa-free festival could e held in Belavezhskaya Pushcha. This article gives readers an idea of the cultural dialogue taking place in the heart of Europe on the eve of the third millennium. Project writer Vera Bagaliants of Minsk's Goethe-Institut feels the festival would help to create a frontier- and visa-free Europe in the future, and make people more ecologically-minded.***

# Спадчына вялікай інертнасці

## Калі знікаюць старыя лясы, разам з імі падае і заслона, без якой цяжка ўстаяць

*Валерый Рымашэўскі*

### Больш дарог — менш лесу

Дзе не праклалі дарог, там яны паяўляюцца. Ужо ад гэтага лесу не большае. Значныя плошчы ідуць пад нож. Хто рэгулярна бывае ў лесе і мае досвед назіранняў, пацвердзіць: там дарог не становіцца менш, менш становіцца лесу. Да таго ж, дарогі ёсць крыніцаю пранікнення ў лясы хваробаў і шкоднікаў, а таксама прычынаю павышанай эрозіі глебы і донных адкладаў у рэках і рэчках. Раней недаступныя і самапрыхаваныя, цяпер, з пракладкай дарог, лясы робяцца адкрытымі для гаспадарнікаў, паляўнічых, шахцёраў, рознага кшталту аматараў лясных дароў. Заўважана: з цягам часу, калі дарог, лесанарыхтовак і прагалаў паміж лясамі становіцца больш ды больш, тыя прыродныя асяродкі робяцца выспамі-астравамі сярод заняпалай зямлі, пры гэтым ускрайкавыя зоны лясных астравоў могуць хутка пагаршацца пад уздзеяннем вятроў, экзатычных мікраарганізмаў, рэзкіх ваганняў тэмпературы і г.д. Можна, канешне, казаць пра ўзнаўленне лясоў пасля высечкі. Аднак гэта не заўсёды магчыма і часам задужа цяжка з-за глыбокіх разбурэнняў лясных асяродкаў. Груваксткія машыны не толькі ўбіваюць зямлю, але да 80 працэнтаў знішчаюць атожылкі, розную лясную порасць. Аналіз, які зрабілі ў Амазоніі, паказаў, што падчас высечкі 3% лесу 54% раслін вырываецца з карэнішчам, ламаецца й нішчыцца ў працэсе будаўніцтва дарог і далейшых лесанарыхтоўчых работ. Наўрад ці наша айчынная практыка выглядае тут больш прывабнай.

Калі мы гаворым пра месца першародных лясоў — а мы зноў і зноў вяртаемся да іх, — дык мусім сказаць усё да канца: гэтае месца нам дарагое. Апроч уласцівай ім каштоўнасці – заставацца найвялікшымі ў свеце сховішчамі жыцця й эканамічнай моцы шматлікіх сваіх кампанентаў, некранутыя лясы ёсць гарантамі доўгатэрміновай паспяховай дзейнасці лесапрамыслоўцаў якраз тады, калі іх не чапаць. Тут вельмі дарэчы два прыклады. У добра захаваных старых лясах асталяваліся "драпежнікі", якіх нібы агню баіцца плойма шкоднікаў з сумежных лясных пасадак. І гэтых "драпежнікаў", паводле звестках вучоных немагчыма выжыць з аблюбаваных спаконвечных кватэраў, якімі ёсць для іх прыродны лес. А вось на плантацыях гэтых жыхароў у 100 разоў менш, значыць, і ўмовы для ўзнікнення там папуляцый ненавісных ім шкоднікаў адпаведныя.

Вынікам працяглай дэградацыі лясных плантацый можа быць і з'ява, якую ў Германіі абвясцілі "лясною смерцю" (waldsterben). Аднак гіпотэзу нямецкіх вучоных адносна ўзнікнення й маланкавага распаўзання хваробы так і не ўдалося пацвердзіць, паколькі там не засталося прыродных лясоў для магчымага параўнання. Таму, калі знікаюць старыя лясы, разам з імі падае заслона, бар'ер устойлівасці й трываласці. І гэта нялішне памятаць тым, хто жыве з лесанарыхтовак. Калі такія заслоны знікаюць, арганізатары вытворчасці пазбаўляюцца не адно генетычнага багацця, але й своеадметных навуковых лабараторый, дзе можна распазнаць мноства ўзаемасувязяў, якія забяспечваюць рост будаўлянага лесу. Можа, услед за паэтам Анатолем Вярцінскім спытаем самі сябе: *"А што, калі глянуць інакш на прагрэс: не сеч сам лес?"*.



**дарога цераз Белавежскую пушчу. Рэдка ўбачыш на ёй ціхую фурманку. Затое на кожным паўкіламетры пешай хады цябе абгоніць нагружаны лесавоз. Сакавік, 1997*

**клубамі шызага дыму могуць падаца на фоне жывога лесу дзялянкі засыхаючых ельнікаў("лясная смерць"?) Цэнтральная Беларусь,1995*

*Фота: Неруш-прэс*



### ...І штосьці зразумець

Апошнім часам пра каштоўнасці беларускага лесу пачалі згадваць і нашы дзяржаўныя лідэры. Маўляў, лесу ў нас — хоць заваліся. Такія запэўніванні час ад часу падкідваюцца ў асяроддзе замежных прадпрымальнікаў, тым самым родняцца з шырока распаўсюджаным прынцыпам "даўгі ў абмен на прыроду", гэта значыць, наш лес у абмен на валюту. Не так даўно жэст "гасціннасці" перад украінскімі шахцёрамі зрабілі кіраўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі: далі дазвол секчы ў запаведных лясах жэрдзе для так званае руднічнай стойкі. Прыклад больш чым красамоўны. З рукі ўладатрымальнікаў можа пайсці ў распыл самы каштоўны лес, нават калі ён будзе "суперапошні". І тое, што лясы наўкруга тысячаў вёсак і вёсачак Беларусі сёння радзеюць, выматлошваюцца, сохнуць і зарастаюць, павінна ўсіх нас насцярожыць, прымусіць азірнуцца вакол сябе, глянуць на бліжэйшы свой лес і штосьці зразумець. Сёння свет змагаецца за лясы, перш-наперш спаконвечныя, прыродныя. Досвед агульнай патужнасці не дае падстаў разлічваць на хуткі поспех ці нават збольшага суцяшальны вынік. Спадчына лесанарыхтовак валодае каласальнай інертнасцю.

*Заканчэнне.*
*Пачатак у папярэднім нумары.*


SUMMARY

*The article calls upon the ecological community of this country to hold more active discussions oh the role and protection of the primeval natural forests of Belarus. Data is cited from the almanac of an institute of observations of the state of the world (Washington). By the time the real value of such forests becomes universally recognized and apparent, it is uncertain how many of them will be left, the author admits with bitterness.*

# АПАКАЛІПСІС APOCALYPSE

“Третий ангел вострубил, и упала с неба большая звезда, горящая подобно светильнику, и пала на третью часть рек и на источники вод. Имя сей звезде “полынь”; и третья часть вод сделалась полынью и многие из людей умерли от вод, потому что они стали горьки”

*Откровение св. Иоанна Богослова*

## Дзесяць урокаў Чарнобыля

**Мемарандум, які прынялі 120 арганізацый з 30-ці краін свету, хоць і напісаны мовай дакумента, мае, аднак, і свой глыбока “лірычны падтэкст”: так бы мовіць, з відаглядам на вясновы пейзаж, на квецень садоў, на нашы лясы і азёры...**

**Наўрад ці жыхары сяла Падыжына Вінніцкай вобласці ведаюць пра тое, што Бог іх акрыў ад ліха. 15 сакавіка 1966 года. Акурат у гэты дзень Мінэнерга СССР зацвердзіў “пасадку” Цэнтральна-Украінскай АЭС (пазней названай Чарнобыльскай) каля сяла Капачы Кіеўскай вобласці. На пачатку ж альтэрнатывай гэтаму рашэнню было якраз Падыжына. Было... Але — Бог мілаваў? — засталося на паперы.**

**А каго і не мілаваў... Капачы, сотні іншых вёсак і селішчаў,што трапілі ў зону, апаліліся гэтай вялікай няміласцю, сышлі ў нябыт без даты адраджэння. Чарнобыльскія Хатыні.**

**Сёння пад зоркай Палын, бадай, цэлы свет, бо, як сведчаць вучоныя, гарантый нават пры самых пільных засцеражэннях няма ні ў кога: новыя Чарнобылі, крый Божа, могуць паўтарыцца дзе заўгодна і калі заўгодна, пакуль чалавек бяспраўны. Пакуль вырашаюць ЗА ЯГО – ведамствы, карпарацыі, праатамныя агенцтвы.**

**Беларусь – рашэннем, якое не мае адносін да волі ці думкі людзей, — ужо гатовая прыняць у сваё ўлонне атамную станцыю (гл. “БП” №1. 1997).**

**І ўжо іншым вёскам рыхтуецца выпрабаванне. Пад іхнімі вокнамі збіраюцца размяшчаць смертаносныя рэактары.**

**Грамадскасць пакуль маўчыць. Чаму? Магчыма, таму, што абывацель яшчэ не ўцяміў. Большасць не верыць, што гэта калі-небудзь адбудзецца. Частка думае, што горш, чым цяпер, усё роўна не будзе.**

**Аднак за такімі рашэннямі стаяць пэўныя колы. Летась нямецкі фонд Генрыха Бёля правёў у Кіеве міжнародную канферэнцыю, на якой з дапамогай сусветных экспертаў узняў высокую хвалю выкрывальнай праўды, інфармацыйнага супрацьдзеяння ядзернаму наступу на Ўсход. Быў прынятымемарандум *“Дзесяць урокаў Чарнобыля”* – дакумент варты ўвагі і засваення.**

**Урок 1: зацікаўленыя структуры ўвесь час утойвалі і прымяншалі сапраўдныя маштабы наступстваў катастрофы.**

Паследкі катастрофы – медыцынскія, эканамічныя, экалагічныя і псіхалагічныя – куды больш сур'ёзныя ў прасторы і часе, чым гэта прызнаецца афіцыйна. Статыстыка Расіі, Беларусі, Украіны, якая адсочвае стан здароўя людзей на забруджаных тэрыторыях, сведчыць пра істотны рост выпадкаў шматлікіх захворванняў. Тымчасам МАТАТЭ (Міжнароднае агенцтва па атамнай энергетыцы – *рэд.*) цынічна прымяншае маштабы трагедыі. Нядаўна яно пераконвала, што сувязь паміж наступствамі аварыі і ракавымі хваробамі не выяўлена (за выключэннем рака шчытападобнай залозы), маўляў, прызнаць абумоўленасць рака ўздзеяннем радыяцыі можна толькі праз дзесяць гадоў. На справе ж 9 млн. чалавек непасрэдна пацярпелі ад катастрофы – альбо загінулі, альбо цяжка захварэлі, альбо мусілі пакінуць месца жыхарства.Чвэрць бюджэту Беларусі выдаткоўваецца на ліквідацыю паследкаў аварыі.

**Урок 2: ядзерная палітыка рэгіёну непрымальная і патрабуе радыкальных зменаў.**

Дзеючыя блокі ЧАЭС – з катэгорыі найбольш небяспечных у свеце. Мы пратэстуем супраць эксплуатацыі іх з мэтай вымагання замежнай фінансавай дапамогі. Гэтыя рэактары патрабуюць найхутчэйшага закрыцця, а не “мадэрнізацыі”, таму што дэфекты канструкцыі ў сістэме бяспекі занадта фундаментальныя, каб іх мажліва было паправіць. Да таго ж, альтэрнатыўныя магчымасці менш каштуюць ... Мы прапануем грунтоўную рэформу энергетычнага сектару Украіны, дзе на адну адзінку валавога нацыянальнага прадукта траціцца ў сем разоў больш энергіі, чым у Заходняй Еўропе.

**Урок 3: ядзерная тэхналогія па сутнасці сваёй небяспечная.**

Чарнобыль ёсць не выключэннем, а хутчэй сімптомам хваробы, характэрнай для ўсёй сусветнай

*I*

*Ня сцлее магільная горыч у велічы дзён памінальных*
*Не абяскровіцца памяць*
*аб долі забітых,*
*агнём спапялёных,*
*у дол закапаных.*
*Чарадой журавоў*
*жальбаносных шляхоў разьвітальных*
*Ляціць да мяне іх апошняе слова —*
*з глыбокіх стагоддзяў,*
*з пякельнага поля,*
*з туману.*

*II*

*“Ня сцлее...” — малюся ў адказ,*
*на сьлязу паміж слоў не скуплюся.*
*Думу думаю ўраньні:*
*Ў ЯКІЯ САБОРЫ ПАЙСЬЦІ*
*ЗА ДЗЯЦЕЙ ПАМАЛІЦЦА?*
*Да-чарнобыльскай эры ўспамінам*
*сагрэюся і прасьвятлюся,*
*Запытаюся ў Бога самога, якою травіцай*
*ад злыбяды горкай умыцца?*

В.Д.
1990

## КАНТРАПУНКТ CONTRAPUNCT

### Кветкі Бацькаўшчыны

*Гэтыя дзеці нарадзіліся пасля Чарнобыля. Кветкі Бацькаўшчыны ў ваколіцах іхняй сялібы тут не пасыпаны радыяцыяй. Але менавіта тут, у лічаных кіламетрах ад іхняга ганку пагрозліва дыхае ў вокны не самая надзейная з АЭС, што ёсць на зямлі, — Ігналінская. Крый Божа...*



*Фота: Аляксандр Гутоўскі (“Нерушi-прэс”)*



Фота:
Аявон Кісялёў

*"Нас увесь час вучылі, што зялёнае наваколле дадзена дзеля радасці і шчасця чалавека, а цяпер перасцерагаюць, што да зялёных галінак нельга дакранацца рукамі..."*

*"Няма больш і вёскі маёй бабулі... Яе пахавалі... Засталася толькі ржавая воданапорная вежа. Можа, яна ператварылася ў крыж".*

*"Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб паранейшаму весела шчабяталі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і каб дождж быў без стронцыю..."*

**Дзеці Беларусі.
Школьныя сачыненні.
1995.**

ядзернай прамысловасці. Хоць ядзерныя аб'екты ва Ўсходняй Еўропе маюць добра вядомую "славу", аднак і на Захадзе ўзровень бяспекі не ёсць прымальным. Няма эфектыўных гарантый ні супраць уцечкі і распаўсюджання радыеактыўных матэрыялаў, у тым ліку на выраб зброі, ні супраць тэрактаў і вайсковых нападаў. 50 гадоў даследванняў і мільярды патрачаных долараў не зрабілі магчымым адшукаць спосабу надзейнай ізаляцыі радыеактыўных адходаў ад навакольнага асяроддзя.

**Урок 4: ядзерная тэхналогія этычна сумніўная і сацыяльна шкодная.**

Цэнтралізаваныя сістэмы электравытворчасці, якія базуюцца на ядзернай энергіі, аказаліся неэканомнымі, нягібкімі і дарагімі коштам. Яны з'яўляюцца сцекуючай глебай для стварэння элітарнай групы "экспертаў", якія з гэтага маюць, таму несумяшчальныя з прававым грамадствам. Яны антыдэмакратычныя, таму што выключаюць удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, якія датычаць бяспекі. Яны ўяўляюць пагрозу, якая не паддаецца разлікам і за якую ніхто не нясе адказнасці. Гэта пагроза для будучых пакаленняў, і ніводны нацыянальны ўрад не зможа абараніць нашчадкаў, пакуль пагроза застаецца рэальнай.

**Урок 5: сапраўдны кошт ядзернай энергіі ўтойваецца.**

Заходнія ядзерныя карпарацыі экспартуюць ва Ўсходнюю Еўропу ядзерныя тэхналогіі, якія на Захадзе не карыстаюцца попытам. З усіх асноўных відаў энергіі ядзерная з'яўляецца самай дарагой... Яна выжывае толькі там, дзе ўкладваюцца вялікія датацыі і дзе яе засланяюць ад здаровай канкурэнцыі, -- мы субсідуем яе значнымі падаткамі, мы плацім за яе нашым здароўем і нашай будучыняй. Яна паглынае сродкі, якія можна было б інвеставаць у больш прымальныя альтэрнатыўныя крыніцы энергіі.

**Урок 6: неабходна змяніць накірунак "дапамогі" з Захаду, асабліва што датычыць крэдытаў на развіццё ядзернай энергетыкі.**

Замест таго, каб паспрыяць паступоваму закрыццю рэактараў, Захад інвеставаў грошы ў завяршэнне будаўніцтва АЭС і падаўжэнне тэрмінаў эксплуатацыі рэактараў. Крэдыты, якія адпускаюцца міжнароднымі банкамі, замежнымі ўрадавымі агенцтвамі і фінансавымі структурамі, падмацоўваюць наступ ядзернай індустрыі на Ўсходнюю Еўропу. І гэта, зноў жа, замест таго, каб спрыяць іншым -- больш бяспечным, не такім дарагім ды экалагічна больш мэтазгодным -- энергетычным магчымасцям.

**Урок 7: ва Ўсходняй Еўропе ёсць альтэрнатыва ядзернай энергіі!**

Тэхнічны і эканамічны патэнцыял для павышэння энергаэфектыўнасці ва ўсім рэгіёне бязмерны. Нават калі малая доля яго будзе рэалізавана, гэта дасць магчымасць закрыць усе рэактары рэгіёну, якія тояць небяспеку, без істотнага эканамічнага ўрону... Доўгатэрміновы патэнцыял узнаўляльных відаў энергіі, такіх як ветравая энергія, малая гідраэнергія і энергія біямасы, надзвычай вялікі і эканамічна эфектыўны. Ён мусіць быць рэалізаваны ў рамках Праграмы даследванняў, укаранення новай тэхналогіі і эканамічных стымулаў, якая паспрыяла б скарачэнню выкідаў, што выклікаюць парніковы эфект. Адзінай перашкодаю на шляху рэалізацыі патэнцыялу ўзнаўляльных (альтэрнатыўных) энергій з'яўляецца адсутнасць палітычнай волі з боку дзяржаў Усходняй Еўропы і вядучых прамысловых краін свету.

**Урок 8: перашкоды на шляху рэфармавання энергетычнай палітыкі ёсць не тэхнічныя і эканамічныя, а палітычныя і структурныя.**

Ядзернае лобі мае за сабой магутную нацыянальную і міжнародную сетку банкаў, даследчых інстытутаў, нібыта кантрольных органаў і нават урадаў. Адна з галоўных прычын, якія тлумачаць такі стан рэчаў, — доўгая сувязь паміж ваеннымі і грамадзянскімі ядзернымі праграмамі. Ядзерная лобі выступае супраць структурных зменаў, адразаючы гэтым шлях да рацыянальнай энергетычнай палітыкі, бо апошняя азначала б частковую страту яго ўлады і даходаў.

**Урок 9: надзвычайную значнасць мае ўдзел грамадскасці ў палітычным працэсе.**

На Захадзе ядзерная індустрыя была прыпыненая менавіта дзякуючы добра інфармаванай і зацятай грамадскай кампаніі. Такі рух, прыстасаваны да мясцовых нацыянальных умоў, павінен набраць сілу і на Ўсходзе, нягледзячы што ўмовы тут больш складаныя. Аднак без нарастання актыўнага ўдзелу некамерцыйных недзяржаўных арганізацый наўрад ці неабходныя змены адбудуцца. Патрабаванні прававога грамадства, якія датычаць дэмакратызацыі кантролю энергетычнай палітыкі, выглядаюць такім парадкам: свабодны доступ да інфармацыі, галоснасць падчас прыняцця палітычных рашэнняў і іх падсправаздачнасць, удзел шырокай грамадскасці і настойлівасць.

**Урок 10: важныя намаганні усіх.**

Кожны чалавек, кожная суполка, якія выступаюць супраць ядзернай энергетыкі і змагаюцца за экалагічна мэтазгодную эканамічную палітыку, павінны мець магчымасць разлічваць на салідарнасць і садзеянне міжнароднага антыядзернага руху.

Удзельнікі Кіеўскай канферэнцыі, якія прадстаўляюць каля 120 арганізацый з 30 краінаў, выказалі гатоўнасць мацаваць супрацоўніцтва ў сумесных пошуках экалагічна мэтазгоднай энергетыкі, здольнай забяспечыць будучыню.

*Кіеў, красавік 1996*

**Падчас прыняцця мемарандума ягоная актуальнасць была нечакана пацверджана свежымі весткамі з Беларусі, дзе ўлады напярэдадні чорнай даты пегзь не заклікалі людзей вяртацца на чарнобыльскія землі і браць з іх пудовыя ўраджаі. Свет зразумеў: Чарнобыль забываецца, ягоныя ўрокі не ўсім даспадобы. *"Ваш Прэзідэнт што, не раўся з навукай?"* – пыталіся ў прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі японкі і расейцы, французы і немцы, амерыканцы і англічане.**

***"Хутчэй за ўсё, — дыпламатычна адказалі мы, — гэта адзін з дзесяці урокаў Чарнобыля".***

***Валерый Дранчук***

## SUMMARY

***Ten Lessons From Chernobyl is a document adopted one year ago at an international conference in Kiev. It is still very relevant to Belarus because the country is now being investigated by Western pro-nuclear corporations in search of new sites for power stations.***

# ЗАСЦЯРОГА WARNING

> "Той факт, што прадукты валодаюць радыепратэктарнымі** ўласцівасцямі, ужо неаспрэчны і гэтым каштоўны для нас. Папросту,кніга раіць есці крупы,бабовыя культуры і агародніну ў пэўнай прапорцыі і як мага пазбягаць такіх прадуктаў як цукар, малочныя прадукты і мяса"
>
> *Сара Шэнан*

***Вясна. Абуджэнне прыроды. Сокам зямлі сілкуюцца дрэвы. Навакольле прасякнута рухам жыцця, прагаю зеляніны. Самы час і чалавеку – дзіцяці прыроды – падумаць пра свае артэрыі, па якіх кроў нясе кіслард, сілкуе арганізм жыватворнымі токамі. У чымсьці засцерагчыся, штосьці разумна залабегчы. Бо жывём у няпросты – атамны век.***

## Нічога не можа быць лепшага за натуральны прадукт з божага саду

### Колькі ўвагаў паводле кнігі Сары Шэнан "Харчаванне ў атамным веку".*

#### *Абмяжуйце доступ "чужынцаў"*

Будзем шчырыя, мы не вельмі сур'ёзна ставімся да харчавання. Якімі прадуктамі насычаем свой арганізм? Бадай, у рэдкіх выпадках кладзём у абедзенны кошык што-небудзь іншае, апроч звычайных перапрацаваных. Аднак ніякія звышдасканалыя тэхналогіі перапрацоўкі прадуктаў не дазваляюць захаваць іх харчовую каштоўнасць

Шлях да лепшага (калі не ідэальнага) здароўя і гарманічнага ладу жыцця грунтуецца на спажыванні натуральных прадуктаў харчавання з божага саду, а не з халадзільных лядоўняў ці сталовак хуткага абслугоўвання. Што такое натуральны прадукт? Гэта антыпод перапрацаваных ( у пажыўным плане) прадуктаў, прадукт — без якіх-небудзь хімічных дабавак альбо кансервантаў.

З гэтай прычыны варта як мага мінімізаваць доступ у арганізм ненатуральных падсалоджвальных рэчываў, вырабаў з ачышчанай белай мукі, кансерваванай садавіны-агародніны, замарожаных прадуктаў (у тым ліку гатовых да ўжывання абедаў) і ўсіх іншых прадуктаў у прыгожай упакоўцы, якімі застаўлены праходы супермаркетаў. Карацей, варта пазбягаць чатырох галоўных груп прадуктаў — марынаваных, упакаваных, прадуктаў хуткага гатавання і замарожаных. Трэба ведаць, што выпуск такіх прадуктаў забяспечвае найперш выгаду іхнім вытворцам і... рост затратаў на ахову здароўя ў сувязі з пагаршэннем самапачування людзей.

#### *Шклянка сумніўнага малака*

Малако ёсць пераносчыкам радыеактыўных рэчываў — ідэя, якую цяжка прыняць. Мне ў дзяцінстве таксама заўсёды давалі шклянку малака, таму я добра разумею, з якім даверам мы ставімся да гэтага прадукта. Аднак...

Штодзень АЭС выпраменьваюць радыеактыўныя рэчывы. Адходы трапляюць у бліжэйшыя рэкі, азёры і нават моры. Яны могуць забруджваць ваду, якою палiваюць культуры, а тыя ідуць на корм жывёле. Не сакрэт, радыеактыўныя элементы маюць асаблівасць назапашвацца ў канцэнтраваным выглядзе ў шмат якіх тлустых прадуктах, у тым ліку малочных і малацэ. І гэта не адзіная падстава, каб асцерагацца.

Каля двух тысяч гадоў таму ад каровы мелі блізу 200 фунтаў (90 кг) малака ў год. Сёння карова дае блізу 10 тысяч фунтаў (4500кг) малака ў год, — і ўсё дзякуючы сучаснай навуцы, якая здолела ператварыць жывёлу ў малочную машыну. У рэшце рэшт карова менш жыве і больш хварэе, а малако выдаецца нятлустым і не мае ўсіх патрэбных пажыўных рэчываў.

Пастэрызацыя – рэч вядомая. Але і тут шмат наступстваў. Шкодныя бактэрыі ўсё ж застаюцца, а ў працэсе стэрылізацыі разбураюцца вітаміны групы В і магній. Малочныя прадукты спрыяюць наяўнасці ў арганізме слізі, якая выклікае застой у кішэчніку, лёгкіх, крывяносных сасудах, лімфатычнай сістэме і інш. Нарэшце, ці не самае адметнае тое, што каровіна малако прызначана прыродай для кармлення цялятаў, а 25 працэнтаў насельніцва свету "хварэе" на малочную алергію (малако і малочныя прадукты). З гэтага вынікае, што захапляцца малаком, хоць і мілым з дзяцінства, няма прычыны.

#### *Калі думаем пра мяса...*

Калі мы думаем пра мяса, нам трэба думаць пра бялок. Слова "бялок" паходзіць з грэцкага "пратэін", што значыць "займаць першае месца". Назва зусім адпаведная, бо для працэсаў росту і ўзнаўлення бялкі маюць першаступеннае значэнне.

Чалавецтва харчавалася мясам на працягу ўсёй сваёй гісторыі, але тое, колькі мы з'ядаем сёння,— не мае аналагаў. І, мушу заўважыць, надзвычай сур'ёзна ўплывае на чалавека, навакольнае асяроддзе і стан планеты.

Нам не выпадае забывацца на інстынкт нашых продкаў, які падказваў ім, колькі збожжавых, бабовых і агародніны трэба з'есці, каб няблага сябе пачуваць і мець добрую сілу.

Яшчэ мяса – гэта прадукт, багаты на тлушч і калорыі. Як і іншыя тлустыя прадукты харчавання, яно спрыяе атлусценню. Скажам больш: яно забруджвае нашы ар-тэрыі. Артэрыі – гэта шляхі, якія павінны быць чыстымі для таго, каб забяспечыць цыркуляцыю крыві ў арганізме. Кроў нясе кіслард і каштоўныя для жыцця пажыўныя рэчывы. Звужэнне артэрый можа прывесці да павышэння крывянога ціску, сардэчных прыступаў і інсультаў. Каб гэтага ўнікнуць, трэба змяніць харчаванне.

Другая праблема ў тым, што мяса можа ўтрымліваць высокі працэнт радыеактыўных брудных рэчываў. Адносна доўгі час праходжання мяса праз кішэчнік спрыяе інтэнсіўнаму паглынанню арганізмам радыеактыўных рэчываў. Таму не дзіўна, што ёсць прамая ўзаемасувязь паміж спажываннем мяса і ракам прамой кішкі.

Нарэшце, сёння скаціна значна церпіць ад унутранага забруджвання – куды больш, чым мы, бо яна не здольная хоць як-небудзь кантраляваць асяроддзе. Спажываючы мяса той альбо іншай жывёлы, мы павінны зважаць на ўзровень яе заражанасці. Дастаткова ўявіць, што кармы не ахаваныя ад уздзеяння пестыцыдаў, угнаенняў і магчымага радыеактыўнага забруджвання. Не кажучы ўжо пра якасць мяса, якую маем пасля ягонай перапрацоўкі.

Большасць людзей, што ядуць натуральныя прадукты, хварэюць рэдка. Калі выключыць з рацыёна слізеўтваральныя прадукты і лішак бялкоў, арганізм здолее сам "навярстаць" упушчанае – вывесці адходы і слізь, адкладзеныя ва ўсіх органах. Менавіта: натуральная жыццёваісная ежа дасць вам здаровае цела, дух і думку.

SUMMARY

***Sarah Shannon's book** Diet for the Atomic Age **is full of important advice just before the start of the dacha gardening season. Extracts from the book draw attention to wholesome foods. There is also a photograph by Igor Byshnev from his Ecophantoms series.***

*Мінск, "Беларусь", 1991

** *ад лацінскага protecter — той, хто асланяе, абараняе*

# КАНТРАПУНКТ CONTRAPUNCT

## Кліч Касандры, або Экафантомы, што нараджаюцца ў нерушах

***Валерый Крыловіч***

*Ігар Бышнёў жыве на Віцебшчыне ў вёсцы Домжарыцы Лепельскага раёна, дзе размяшчаецца сядзіба Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Малады вучоны даследуе птушак. Рэгулярна, як і належыць навукоўцу, наведваецца ў лабараторыю прыроды, вяртаючыся ў лабараторыю-майстэрню. Рэч у тым, што Ігар даўно і шмат здымае. Мінскае выдавецтва «Ураджай» выпусціла ў свет першую ягоную кнігу «Птушкі над Бярэзінай».Яна багата і з густам ілюстравана фатаграфіямі аўтара. Выхаду ў свет чакае яшчэ адна кніга арнітолага з Домжарыцаў — "Terra vita», укладзеная з 314 каляровых выяваў. А пакуль выдаўцы шукаюць багатых спонсараў, аўтар працягвае свае даследаванні і не забываецца на творчасць. Ён распачаў серыю «Экафантомы», на якіх прывіды-вобразы мяжуюць з рэаліямі сучаснасці. У гэтай серыі – малюнках па фатаграфіі – Ігар імкнецца засведчыць пагрозу, якая навісла над прыродай і над самім чалавекам. Сваё бачанне ён выяўляе ў сімвалічных знаках перасцярогі.*



*Ігар Бышнёў
Серыя
"Экафантомы"*

*Міжволі згадваецца міфалагічная Касандра – дачка траянскага караля. Закаханы ў яе бог Апалон надзяліў прыгажуню дарам прароцтва. Але гордая Касандра не прыняла кахання сонечнага бога, і ён зрабіў так, што ў яе прароцтвы ніхто не верыў...*

*Жанр малюнка па фатаграфіі даўно не новы. Аднак распрацоўваецца ён спакваля, да яго звяртаюцца рэдка. Магчыма, таму, што патрабуе «двайнога» бачання, неардынарнасці мыслення. Ігар Бышнёў шукае ў ім свае, адметныя магчымасці выяўлення SOS-тэматыкі. Як яму гэта ўдаецца? Угледзімся ў экафантомы...*

# Н | А | Ц | Ы | Я | Н | А | Л | Ь | Н | Ы  П | А | Р | К



# Прыпяцкі

ГАЗЕТА Ў ГАЗЕЦЕ ВЫПУСК ПЕРШЫ 1997

Серыя "Аўтограф".

Матэрыялы для выпуску пададзены навуковым аддзелам нацыянальнага парка "Прыпяцкі". Падрыхтоўка да друку: газета "Белавежская пушча"

**Спачатку паглядзім на геаграфічную карту. Нітку Прыпяці – ракі, што дала назву Нацыянальнаму парку, – лёгка заўважым у паўднёвай часціне краіны. А вось і слынныя прытокі – Убарць, Сцвіга, Маства, Гарынь... Гэта Прыпяцкае Палессе, старажытная Тураўшчына.**



*Фота: Вільгельм Дубіловіч*



*Бываюць жа такія дзівосныя куткі, дзе амаль у казачным спалучэнні ды чараванні прадстаўлены розныя комплексы-светы, скрыжаваны розныя ландшафты, супольнасці жывёл і раслін. Толькі зверху, як кажуць, з птушынага палёту, можна ўбачыць усю непаўторнасць мясціны: лугі з дубовым рэдкалессем (лесалугі), забалочаныя нізіны ў траве і лазняку, лясныя абшары, дубровы, чорнаалешнікі, палосы вербаў уздоўж берагоў і балоты, балоты...*

*Прыродная разнастайнасць Прыпяцкага Палесся, багацце краявідаў і з`яў, асабліва веснавыя разлівы, не толькі спрыяюць, але даюць магутны штуршок да росту і ўзбагачэння ўсяго жывога. Тут сустрэнеш каля трыццаці відаў дрэўных і кустовых раслін, блізу васьмісот -- травяністых, сярод якіх шмат рэдкіх і знікаючых. Больш за ўсё хвойнікаў. Самую значную плошчу "захапілі" хвойнікі, непаўторныя свім адвечным багаццем -- сфагнавымі імхамі ды верасамі.*

*Раслінны свет асабліва насычаны там, дзе ландшафты мяжуюць адзін з адным. Гэта яскрава фіксуецца ў азначэннях цэлых відавых супольнасцяў: водныя, прыбярэжна-водныя, пойменныя, лугава-балотныя, пойменна-кустовыя, пойменна-лясныя і г.д.*

*Дваццаць сем гадоў, як запаведнік выконвае сваю галоўную місію захавальніка непаўторных палескіх ландшафтаў. Яго з поўным правам называюць прыроднай лабараторыяй, эталонам Палескага краю. Такім ён і павінен застацца для будучых пакаленняў.*

*"Газета ў газеце", прысвечаная нацыянальнаму парку "Прыпяцкі", -- першая спроба больш падрабязна рэпрэзентаваць каштоўнасці Прыпяцкага Палесся, паспрыяць развіццю запаведнай справы ў рэгіёне, захаванню гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі.*

Зусім у іншы свет пераносіць нас даліна Прыпяці, гэтае Герадотава мора. Даследчык прыроды ці нават паэт знойдзе тут такое багацце прадметаў для вывучэння, для назірання, якое, бадай, не сустрэнеш дзе-небудзь яшчэ... Гэта своеадметны, маркотна-пануры і дзікі лясны свет, да якога нават асушэнне балотаў не хутка пракладзе свабодны шлях.

*А. Кіркор*
*1882*



*Фота: Аляксей Мацюш (серыя "Прыпяцкае Палессе")*



### PRIPYAT NATIONAL PARK

***As part of its Autograph series, the paper includes four pages of information about Pripyat National Park in Southern Belarus (it was a landscape and hydrological reserve until 1996). It gives historical data, and draws attention to the conservation of unique and typically Belarusian Polessye landscapes, because of the widespread drainage taking place in this area, p.7-10***

# Новая назва. Што далей?

Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік саступіў месца *Нацыянальнаму парку "Прыпяцкі"*. Межы новага ахоўнага ўтварэння значна пашырыліся. Апроч тэрыторыі былога запаведніка сюды ўвайшлі таксама размешчаная больш на поўнач рака Прыпяць з лева- і правабярэжнымі абшарамі поймы ад вусця р. Сцвіга да вусця р.Убарці. Факт залучэння гэтых тэрыторый і змену межаў запаведніка тлумачыць намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парка па навуковай працы *Анатоль Углянец*

— Рэч у тым, што яшчэ пад час арганізацыі запаведніка (1969) не былі ўлічаны два істотныя фактары: незамкнутасць гідралагічнай сістэмы запаведнай тэрыторыі і няпоўная ландшафтная прадстаўленасць рэгіёна, менавіта: адсутнасць галоўных кампанентаў Палесся — ракі Прыпяць і ландшафтаў яе поймы. Адпаведна, залучэнне гэтых кампанентаў паказвае на два аспекты: гідралагічны і ландшафтна-біялагічны.

*Гідралагічны аспект*. У выніку залучэння часткі Прыпяці ( з прылеглай поймай і вусцямі вадацёкаў на запаведных землях) тэрыторыя набыла гідралагічную замкнутасць з паўночнага захаду, з поўначы і з паўночнага ўсходу.

*Ландшафтна-біялагічны аспект*. Пойма Прыпяці шматаблічная. Рознакшталтнасць яе экалагічных умоў мазаічная і шматстайная. Адсюль і надзвычайнае багацце ландшафтаў, іх на дзіва прадстаўнічы элементны склад, маляўнічая палітра краявідаў. Тут сустракаюцца чорнаалешнікі, поймавая і прырэчная дубровы, ясакарнікі, зараснікі вербніку, вербалозу, балоты, пясчаныя гакі, пратокі, старыцы, азярыны, сухадольныя і залiўныя поймавыя лугі з траўнымі комплексамі, якія налічваюць каля 250 відаў вышэйшых раслінаў, у тым ліку занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі.

Насычанасць поймавых абшараў і экатонаў (сумежных дзялянак паміж рознымі тыпамі біятопаў — лясныімі, лугавымі, воднымі, хмызнякамі і інш.) дала магутны эфект у выглядзе відавога багацця і шматлікасці жывёл, асабліва арнітафауны. Тут "прапісаліся" блізу 100 відаў птушак з 280-ці, якія сустракаюцца ў Беларусі. Пойма — адзін з найважных у Еўропе міграцыйных шляхоў веснавога і асенняга птушыных пралётаў.

У Прыпяці і поймавых вадаёмах водзяцца 34 віды рыбаў (у вадаёмах запаведніка толькі 22).

Такім чынам, мяркуецца, што залучэнне азначаных поймавых тэрыторый паспрыяе захаванню рэдкіх і тыпова палескіх водных і поймавых ландшафтаў, іх біялагічнай разнастайнасці, павышэнню прадстаўнічасці запаведніка як цэлага рэгіёна — Беларускага Палесся.

Варта ўвагі і тое, што далучэнне тэрыторый з наданнем ім рэжыму запаведнасці было б наўрад ці рэальна з-за выключна вялікай іх сацыяльна-эканамічнай значнасці. Абшар Прыпяцкай поймы, асабліва яе правабярэжная частка,надзвычай людны. Пойма знаходзіцца ў эксплуатацыі шэрагу калгасаў і саўгасаў Жыткавіцкага, Петрыкаўскага, Лельчыцкага раёнаў, мясцовага насельніцтва. Пашырэнне рэжыму запаведнасці на гэтую тэрыторыю паставіла б пад забарону ўсю гаспадарчую дзейнасць, што ў сучасных умовах, бадай, немагчыма. Таму было прынята рашэнне аб стварэнні нацыянальнага парка, рэжым якога, згодна з існуючым заканадаўствам, дапускае традыцыйнае гаспадаранне і дзейнасць промыслаў.

І яшчэ. Арганізацыя нацыянальнага парка "Прыпяцкі" ёсць першай прыступкай да рэалізацыі больш маштабнага праекта — стварэння буйнейшага ў Еўропе Нацыянальнага парка, у склад якога плануецца надалей залучыць прыродныя поймавыя экасістэмы Прыпяці да вусця р. Случы, а таксама тэрыторыі Тураўшчыны з яе адметнай сельскай гаспадаркай і больш як 120 помнікамі гісторыі і археалогіі.■



*Фота: Аляксей Мацюш. (серыя "Прыпяцкае Палессе")*

# Свет і лёс Прыпяцкага Палесся

## Усё мае сваю гісторыю

### Адвечная краса з балотным смакам паляўнічага шчасця

Ідэя запаведання часткі мясцовасці на Палессі належыць польскаму акадэміку Уладзіславу Шаферу. Яшчэ ў 20-30-я гады, калі Заходняя Беларусь была ў складзе Польшчы, ён аблюбаваў месца пад балотны запаведнік ў міжрэччы Гарыні і Сцвігі (цяперашняя тэрыторыя вайсковага палігона) і абгрунтаваў неабходнасць яго стварэння. Самым важкім аргументам на карысць запаведніка было, вядома, тое, што тут цудоўна захаваліся ў сваёй адвечнай красе буйныя балотныя абшары, роўных якім на Палессі, бадай, не было. Раней гэтыя ўладанні належалі князю Радзівілу, які там ніякай гаспадаркі не вёў, а толькі зрэдку, раз на год-два прыязджаў з сябрамі адчуць "балотны смак" паляўнічага шчасця. Астатні час года прыватныя княжацкія ўгоддзі пільна ахоўваліся, і рэжым аховы быў там нават больш жорсткі, чым у цяперашніх запаведніках. Дзякуючы гэтаму экасістэмы тыхчасовых мясцін нерушаў заставаліся некранутымі яшчэ ў першай палове XX стагоддзя.

Тым жа часам (20-30-я гады) выбітны польскі балотазнавец Станіслаў Кульчынскі ладзіць даследаванні балот Палесся (цяпер Валынская і Брэсцкая вобласці), вынікам якіх стала выдадзеная ў 1939 і 1940 гг. двухтомная манаграфія "*Тарфянікі Палесся*" (Кракаў, Лондан). З яе старонак паўстаюць усе балоты рэгіёна, у тым ліку прапанаваныя Шаферам да запаведання. Змешчаныя ізнія поўнааблічныя характарыстыкі, пададзены каардынаты, звесткі пра торф і г.д. Гэта значыць, ужо на пачатак 40-х гадоў была падведзена навуковая база для стварэння запаведніка паміж Гарынню і Сцвігай.

Так сталася, што ў 1957-1958 гг. дырэктар цэнтральнага батанічнага саду АН БССР акадэмік М. Смольскі пазнаёміўся падчас знаходжання ў Польшчы з С. Кульчынскім і У. Шаферам. Першы падарыў яму манаграфію, а другі давёў ідэю пра запаведнік, што называецца, з першых вуснаў. Вярнуўшыся ў Мінск, акадэмік Смольскі даручае супрацоўніку батанічнага саду, вядомаму балотазнаўцу Л.Смаляку абгрунтаваць стварэнне запаведніка ў міжрэччы Гарыні і Ствігі. У 1961 годзе гэтая праца была з поспехам зроблена, аднак пры ўзгадненні дакументаў у міністэрствах і ведамствах Вайсковая акруга выказалася за адмену рашэння. Прычына такога вета выявілася пазней: месца рэзервавалася пад вайсковы палігон краін Варшаўскага Дагавору.

Але шырокамаштабны гідратэхнічны наступ меліярацыі на забалочаныя і вільготныя землі Палескай нізіны зрабіў відавочнай і паставіў у рост вострую неабходнасць запаведання балот. І не толькі балот, але ўвогуле прыродных ландшафтаў, якія апынуліся пад пагрозай іх трансфармацыі ў аграландшафты. У 1962-1963 гг. абгрунтаванне запаведніка зноў было аднаўлена згодна з прапанованай аб запаведанні тэрыторыі сучаснага рэзервата (Л. Смаляк, А. Бойка). Афіцыйнай датай арганізацыі Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка з'яўляецца **3 чэрвеня 1969 года.**

### Памылка графа, якую ён зразумеў сам

Гісторыя запаведніка пераносіць нас у больш глыбокі час — другую палавіну XVIII стагоддзя. Тураў і прылеглыя да яго землі з'яўляюцца ўласнасцю Міхаіла Элінскага, затым графа Салагуба. Напрыканцы стагоддзя граф прадаў Тураў з лясамі ўздоўж Прыпяці за 800 тыс. рублёў англійскай акцыянернай кампаніі, інтарэсы якой не сягалі далей прамысловых распрацовак лесу. Калі пачаліся высечкі, граф зразумеў сваю памылку і асабіста хадайнічаў перад імператарам Паўлам аб вяртанні прададзеных земляў. З высокай ласкі англічанам былі вернутыя грошы, і Тураў з навакольным лесам паступіў у казну. Так, дарэчы, з'явіліся ўрочышчы пад назвай "Казённае".

Мінулае стагоддзе было адзначана хронікай арганізацыйна-пераўтваральных працэсаў.

1841. На тураўскім лясным абшары створана першае Мазырскае лясніцтва, у якое ўвайшла большая частка сучаснай тэрыторыі запаведніка.

1871-1898. На забалочанай тэрыторыі праводзяцца меліярацыйныя работы пад кіраўніцтвам Жылінскага.

На канец XIX стагоддзя ў лясах вяліся толькі нязначныя прышчуковыя высечкі. Суцэльныя,

# Летняя сустрэча



**Яна была запланаванай. У сонечныя цёплыя дні чарапахі любяць пагрэцца на беразе ціхай лясной рэчкі**

Машына з'язджае з асфальтавай дарогі і кіруе ў бок лесу. Колькі паваротак – і мы ў абдымках бярозавых ды сасновых шатаў. Сёння звычайны працоўны дзень, выезд у лес, да лясной ручаіны. Тут, на яе берагах жыве маленькі сціплы родзіч легендарных і загадкавых дыназаўраў – балотная чарапаха.

Першыя паўзуны, альбо рэптыліі з'явіліся на Зямлі каля 300 мільёнаў гадоў таму. У мезазойскую эру, названую "залатым векам рэптыліяў", дыназаўры былі ўвасабленнем самой разнастайнасці, запаўнялі воднае наземнае і паветранае асяроддзе. Вага іх сягала ад некалькіх кілаграмаў да 45 тон. Урэшце рэшт, з таго багацця – 16 ці 17 атрадаў рэптыліяў – ацалела чатыры. Тэрыторыю нашай краіны прадстаўляюць два: чарапахі і лускаватыя (яшчаркі і гадзюкі). Балотная чарапаха – адзіны сучасны від чарапахаў, якія сустракаюцца ў Еўропе там, дзе зімы досыць халодныя. На Беларусі водзіцца толькі ў паўднёвай часціне, найбольш звычайная на Палессі. Гэта самая старажытная хрыбтатая жывёліна беларускай фауны.

У 1926 годзе падчас сумеснай экспедыцыі вучоных-заолагаў і студэнтаў Беларускага універсітэта і Беларускай сельгасакадэміі было засведчана, што балотная чарапаха досыць звыклы і нават часам шматлікі від на тэрыторыі Гомельскай вобласці. Але мінулі гады. Палессе зведала меліярацыю. Прапала мноства балот, ручаёў, азярынаў. Шматлікія рэчкі калі й захаваліся, дык хіба што ў выглядзе каналаў сярод палёў. І цяпер балотная чарапаха ці не паўсюль зрабілася рэдкім відам, патрапіла ў Чырвоную кнігу Беларусі. Сустракаецца сям-там у паасобных месцах свайго былога арэалу. Адзін з такіх прытулкаў на тэрыторыі парка мы і вырашылі наведаць – прымеркавацца адносна колькасці, сфатаграфаваць.

Машына спыняецца перад мостам. У сонечныя летнія дні чарапахі любяць грэцца на беразе рэчкі і тады іх тут лёгка заўважыць. Такі дзень мы і выбралі. Усё наўкол было нібы агорнутае цяплом і пяшчотаю летняга поўдня. Усім было добра. Нават камары адчапіліся, не падавалі галасоў.

Спусціўшыся з моста, кіруем па сцежцы ўздоўж ракі, міма сотак бульбы. Нас ужо заўважылі. Дзед, што сядзеў у цяньку, пільнуючы сваіх козаў, рушыў да нас напраст-кі. "Што вы тут робіце?" – падазрона пацікавіўся ён. Але ўбачыў свайго знаёмага і адразу памякчэў: "А, гэта з запаведніка".

Рэч у тым, што мясцовыя жыхары надзвычай неабыякавыя да сваіх суседзяў – чарапахаў, стараюцца аберагаць іх ад неспакою з боку "чужынцаў". Калі з'явілася мода на папяльнічкі з панцыру чарапахаў, іх, небаракаў, пачалі знішчаць, у тым ліку на продаж. У палешукоў на гэты конт ёсць сваё меркаванне. Калі хто і мае права злавіць і прадаць пару чарапах, дык гэта яны. А для заезных тут няма справы. Няхай жывуць *нашы* чарапахі, як і жылі дагэтуль!.. Таму ўсе новыя людзі каля ракі не застаюцца незаўва- жанымі. І любая спроба адлову жывёлін заззычай адсякаецца. Што да навуковых супрацоўнікаў парка, дык іх тут пераважна ведаюць і пасля аднаго-двух пытанняў больш не турбуюць.

Мы рушылі далей, вышэй па цячэнні.Рэчка вузкая, другі бераг відаць добра. Вось нешырокі гладкі спуск да вады. Напэўна, не проста так. У гэтым месцы чарапахі



Фота: Аляксей Мацюш.



*Любая зямля, нават самая цудоўная ў сваім абліччы, будзе няпоўная без чалавечых вачэй. Свет прыроды і чалавек непадзельныя. Такая мудрасць жыцця, што трэба не забывацца на тонкія сценкі цуда.*

➡

*Са старонкі 8*

вузкалесасечныя былі распачатыя ў 1900 годзе.

За савецкім часам тэрыторыя сучаснага запаведніка належала лясгасам, з 1930 — Тураўскаму леспрамгасу. Інтэнсіўная эксплуатацыя лесу пачалася пасля Вялікай Айчыннай вайны, што зразумела: патрэбна была драўніна, каб аднавіць разбураную гаспадарку. Адначасова ўзнавіўся і догляд за меліярацыйнай сеткай Жылінскага. Па яе магістральных каналах да 60-х гадоў сплаўляўся лес, аб чым дагэтуль сведчаць рэшткі шлюзаў.

Па стварэнні запаведніка догляд асушальнай сістэмы быў спынены, пачалося паўторнае забалочванне тэрыторыі і паступовае "вяртанне" балотных экасістэмаў. Цяпер належала захаваць у натуральным стане тыповы для Беларускага Палесся ландшафтна-гідралагічны комплекс, захаваць альбо вярнуць асобныя рэдкія і знікаючыя віды жывёл і раслінаў. Вельмі важна было прасачыць і вывучыць наступствы шырокамаштабнай меліярацыі савецкага часу, беспрэцэдэнтнага ўмяшання чалавека ў прыроду Палесся.

### Ад рашэнняў да практыкі

Нягледзячы на прынятыя рашэнні працэс запаведання тэрыторыі не быў простым. Толькі праз пяць гадоў пасля ўтварэння запаведніка ўдалося спыніць высечкі галоўнага карыстання. Не адразу былі забаронены іншыя формы гаспадарання: нарыхтоўка смалякоў, падсочка лесу, збіранне ягад, грыбоў, лекавай сыравіны, нерэгуляваны выпас.

## Усё мае сваю гісторыю

Цікава прасачыць і шматгадовую гісторыю падпарадкавання запаведніка з характэрнай зменай інстанцый. На пачатку вышэйстаячай арганізацыяй было Гомельскае кіраўніцтва лясной гаспадаркай. З сярэдзіны 70-х да пачатку 90-х гадоў тэрыторыя па чарзе пераходзіць у рукі Міністэрства лясной гаспадаркі, Дзяржкамітэта па экалогіі, галоўнага кіраўніцтва вытворча-гаспадарчых службаў і запаведнікаў Савета Міністраў. Цяпер, ужо трэці год, тэрыторыя падпарадкуецца Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта.

Вельмі важна, каб людзі, якія жывуць у запаведніку, не адчувалі сябе "ахвярамі" ахоўнага рэжыму, а былі яго свядомымі прыхільнікамі. Таму на тэрыторыі парка вылучана гаспадарчая запаведная зона, дзе мясцовыя жыхары карыстаюцца дарамі лесу і ў экстрэмальныя перыяды маюць магчымасць пасвіць жывёлу. Створана таксама лесапаляўнічая гаспадарка, якая дапаможа зменшыць гнёт на запаведныя экасістэмы.

### Захаваць генафонд

Навукова-даследчая праца ў запаведніку ажыццяўлялася супрацоўнікамі навуковага аддзела разам з іншымі арганізацыямі, найперш АН Беларусі. Спачатку была зроблена інвентарызацыя флоры і фауны і вызначаны месцы знаходжання жывёл і раслін, занесеных у Чырвоную кнігу. Вывучаўся рэжым і баланс грунтовай вады паводле асноўных тыпаў лесу. Праведзены эколага-фітацэнатычныя даследаванні сасновых лясных фармацыяў запаведніка з ацэнкай іх біялагічнай прадуктыўнасці. Зроблены ландшафтнае, гідралагічнае, лесатыпалагічнае раянаванні тэрыторыі. Вывучаліся пойменныя дубровы. Сабраны каштоўны матэрыял аб водным рэжыме балотаў, працэсах узнаўлення расліннасці на высечках і на месцах пажараў. Аб'ектам навуковага даследу былі астраўныя ельнікі. Назіраўся пралёт птушак. Адсочваўся працэс рэакліматызацыі белавежскага зубра. На запаведных тэрыторыях наладжаны эколага-гідралагічны маніторынг лясных і балотных экасістэм. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў шматлікіх навуковых працах, большасць якіх апублікаваная (каля 150).

Тым часам роля і значнасць Нацыянальнага парка павялічваюцца з-за пагаршэння і абвастрэння экалагічных умоў на Палессі. Надзвычайную актуальнасць маюць захаванне генафонду расліннага і жывёльнага свету, тыповых і рэдкіх па сваёй каштоўнасці прыродных экасістэм, вывучэнне біялагічнай разнастайнасці. Можна сказаць, што ў гэтых умовах нацыянальны парк "Прыпяцкі" паводле сваёй структуры, рэжыму аховы і навуковай дзейнасці адпавядае міжнародным стандартам біясфернага запаведніка і выконвае ўсе ягоныя функцыі ■

Анатоль Углянец.
*Тураў*

# Сфагнавы мох: погляд зблізку

Балота... І хтосьці, напэўна, адразу ўявіць купіну-курганок, парослую сфагнавым мохам.

Уяўленне не памылковае. Пераважны фон балотнай раслiннасцi складаюць, пэўна ж, яны, сфагнавыя імхі. Паводле колераў і адценняў, вельмі розныя: зялёныя, чырванаватыя, пурпуровыя, бурыя, жаўтаватыя. Мшаны покрыў вельмі шчыльны. Асобныя расліны не маюць карэнняў. Ніжняя частка штогод адмірае, ахвяруючы на торф.

Працэс торфаўтварэння доўжыцца тысячагоддзі. У сфагнавым торфе можна знайсці не толькі кавалачкі-часткі раслін, але нават цэлыя іхнія паасобнікі. Гэта тлумачыцца наяўнасцю кiслага асяроддзя, у якім адмерлыя расліны могуць знаходзіцца тысячы гадоў, не паддаючыся гніенню.

Сфагнавыя імхі валодаюць антысептычным дзеяннем, гояць раны. Людзі замест ваты набівалі імхом марлевыя падушачкі і скарыстоўвалі як перавязкі.

Практычная значнасць сфагнавых мхоў пацвярджаецца і тым, што яны здаўна прыдаваліся ў якасці цеплаізалятараў. І сёння мохам канапацяць хаты, а птушкі паранейшаму ўюць з яго гнёзды, жывёлы высцілаюць норы.

Яшчэ прыклад. Рыхтуючы агародніну ці садавіну на зіму, чалавек ішоў па мох, каб як мага лепш і надаўжэй захаваць сабраны ўраджай. Балоты дзяліліся шчодра. Моху хапала на ўсё, нават на падсціл жывёле ў хляве.

Рэч у тым, што сфагнумы надзвычай гіграскапічныя, здольныя паглынаць вадкасці ў 20 разоў больш за сваю вагу ў сухім стане. Гэтая ўласцівасць і засведчана ў назве: з грэцкай мовы "сфагнос" азначае "губка".■

Вольга Шарай

*Са старонкі 9*

выходзяць на бераг , каб пагрэцца ды паесці. Бо акром водных безхрыбчатых (малюскаў, кузурак, іхніх лічынак), апалонікаў, дробных жабак і трытонаў чарапахі яшчэ паядаюць наземных мошак, а таксама раслiннасць з воднага і прыбярэжнага меню. Дарэчы, на сушы чарапаха не такая бездапаможная, як можа падацца. Па-першае, яна не адыходзіцца далёка ад вады і на першы падазроны шум або рух вельмі жвава кідаецца ў ваду і зарываецца ў глей або водарасці. Па-другое, калі яна ўсё ж не паспела і шлях да вады адрэзаны, чарапаха ўтульвае галаву пад панцыр. Туды ж хавае лапы і хвост. Хоць такі схоў не заўсёды ратуе ад лісы, янотападобнага сабакі, ваўка ці белага бусла, аднак не кожны "злоснік" знойдзе цярплівасць валтузіцца з чарапахай, каб выцягнуць яе з-пад панцыру. Каторыя кідаюць гэты занятак, ідуць шукаць іншай спажывы. А чарапаха застаецца жывой і цэлай, калі не браць пад увагу драпіны на панцыры.

Сёння нам пашанцавала.Мы не толькі ўбачылі чарапаху, але і назіралі асаблівы эпізод яе жыцця – шлюбныя заляцанні. Зазвычай асцярожныя, гэты раз чарапахі не заўважылі нашага набліжэння, мы падыйшлі да іх на тры-чатыры метры і пачалі назіраць.

Паперадзе, уздоўж берага супраць цячэння, досыць шпарка перабіраючы лапкамі, рушыла чарапаха. Яе круглявы панцыр мякка "касіў" траву, прыгінаючы сцяблiны. А за ёю шчыльненька, раз-пораз наступаючы лапамі на край панцыру самкі, спяшаўся самец. Ён быў крыху драбнейшы і форма панцыру адрознівалася: прыпаднятая пярэдняя частка карапакса і больш спусцістая, з казырком, задняя нагадвалі нямецкую каску часоў мінулай вайны. Хвілін дзесяць мы сачылі за імі, але ў характары іхніх паводзін нічо-га не мянялася. "Кавалер" гэтак жа аддана драпатаў ззаду. Было відаць, яны нікуды не спяшаліся... Ды і нашто ім спяшацца! Жывуць чарапахі да 130 гадоў. Пакладзе самка ў глебу 5-10 сваіх яец, пакрытых вапнавай шкарлупінай. Праз 2-3 месяцы з іх выведуцца дробныя (22-25 міліметраў) чарапашкі. Ім не пагражае набліжэнне зімы. Бо на паверхню зямлі яны выйдуць толькі наступнай вясной. А растуць чарапашкі не хутка: за 10 гадоў даўжыня іх карапакса павялічыцца хіба што да 14 сантыметраў.

Мы зрабілі колькі здымкаў і напаследак гучна абвясцілі сваю прысутнасць. Чарапахі пакідаліся ў ваду. Мы развіталіся. І праўда: няхай жывуць нашы чарапахі!..■

Іна Зеніна,
навуковы супрацоўнік



*Нехта дасціпна заўважыў, што балоты – гэта маладосць нашай зямлі. Выток вытокаў. Прадаветная дапеч. Нездарма і казка кажацца: "За сямю лясамі, ды за сямю балотамі" — значыць, дзесьці далёка, у таямнічым свеце. Тым часам, вось яно, запаведнае, побач – казка Прыпяцкага Палесся*

*Фота: Аляксей Мацюш*

# Засцерагчыся на будучыню

Да з'яўлення на Зямлі чалавека найпершай прычынай пажараў была маланка.

Што лясныя пажары здараліся яшчэ ў незапомны час, да чалавека, сведчаць знойдзеныя ў нетравых адкладах выкапні драўнiннага вугалю. Прычынай стыхіі была маланка. І хоць выпадкаў загаранняў назіралася менш, ролю пажараў на Зямлі ў дагістарычны час трэба ацэньваць як надзвычай вялікую, бо пажары ніхто не тушыў, яны ахаплівалі цэлыя абшары.Так працягвалася дзесяткі мільёнаў гадоў.

З пацяпленнем клімату і з'яўленнем кветкавай раслiннасцi (200-100 мільёнаў гадоў таму) агонь стаў адным з найважных прыродных фактараў. Рэч у тым, што менавіта кветкавыя расліны вылучаюць рэчывы, якія іанізуюць паветра і зніжаюць электрычнае супраціўленне. З гэтай прычыны на адзінку паверхні сушы, пакрытай раслінамі, маланкі білі ў сто разоў часцей, чым на адзінку паверхні акіяна.

З'яўленне чалавека амаль не змяніла адвечнай статыстыкі, колькасць пажараў па яго віне, як мяркуецца, была нязначнай. Але з часам каля лесу пачалі сяліцца аратыя, жывёлаводы, прамыслоўцы, і стыхійныя здарэнні пачасціліся.

Цяпер на Зямлі штогод ад маланак здараецца 20 тысяч лясных пажараў (паводле іншых звестак – 50 тыс.). У Прыпяцкім запаведніку за 25 гадоў назіранняў толькі адзін пажар зачаўся з маланкі.

Вучоныя маюць звесткі, што найбольш часта пярун б'е ў дуб (звыш палавіны ўсіх выпадкаў), затым ідуць яліна, сасна і ліпа. Здарэнняў, калі маланка трапляла ў клён ці бярозу, не зарэгістравана. (Што датычыць засцеражэнняў падчас навальніцы, дык лепш не заставацца каля адзінокіх дрэваў, слупоў ці іншых выносных прадметаў бліжэй як за 15 метраў; лепш знайсці сховішча пад невысокімі густымі дрэвамі).

Агонь найчасцей зачынаецца тады, калі маланка б'е ў сухастойныя дрэвы альбо ў зямлю, парослую мохам, на рэдкалессях.

Цяжка назваць больш нялiтасцівую з'яву ў дачыненні да лесу, чым стыхія агню. За лічаныя мінуты і гадзіны знішчаюцца раслінныя супольнасці, якія фарміраваліся на працягу дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў. Згараюць, калечацца, знікаюць з аблічча зямлі дрэвы, кусты, трава, ягаднікі, грыбныя мясціны, курціны гаючых зёлак, імхі, лішайнікі, незлічоная колькасць зеліва, карэнчыкаў і інш. Гіне багацце жывёльнага свету, найперш моладзь. Дарослыя звяры і птушкі пакідаюць гарэльнікі. З-за атручэння вады вуглекіслатою ў азёрах і рэчках прападае рыба. Згараюць мурашнікі, пчолы. Знішчаюцца віды мошак, якія былі пагрозай для шкоднікаў лесу. Колькасць апошніх значна павялічваецца.

Экалагічны стан тэрыторыі пагаршаецца. З раёнаў, дзе ўзровень радыяцыі высокі, разносяцца радыенукліды. Дым ад вялікіх пажараў абмяжоўвае доступ сонечнай энергіі на зямлю. Атмасфера забруджваецца куродымам, сажай.

Аднаўленне раслiннасцi, якая знікла ў агні, — працэс даўгачасны. Травам на гэта спатрэбіцца 15-25 гадоў, імхам – 20-30, лішайнікам – 30-40 і больш гадоў. Аднак карэнныя расліны часам губляюць дарогу назад, да адвечнага ўлоння.

Чалавек, здольны адчуваць жывое і спачуваць яму, гэтак жа здольны і засцерагчыся ад небяспекі, якую нясе агонь ці абыходжане з ім. Можа, каму падасца дзіўным, але першымі прычынамі ўзнікнення пажараў у Прыпяцкім запаведніку з'яўляецца наўмысны падпал (60 працэнтаў усіх выпадкаў), а таксама абыякавасць, неабыходлівасць з агнём. Наўмыснасць, вядома ж, не ў дачыненні да лесу, прыроды, а з зацятай помсты, каб "разлічыцца" з лесніком ці адміністрацыяй. Такі сродак вырашэння канфліктаў варты ўсялякага асуджэння, бо наступствы пажараў, як бачым, лёгка прагназуюцца, а маштабы ўрону такія, што ахвярамі застаюцца найперш мясцовыя жыхары, блізкія людзі.

Якім будзе сёлетняе ці наступнае лета, цяжка прадбачыць. Аднак, пішучы гэтыя радкі, аўтар не ўтойвае свайго жадання хоць словам дапамагчы лесу, адвесці бяду ад ягоных багаццяў, засцерагчыся на будучыню.■

Вольга Шарай,
старшы навуковы супрацоўнік



# Дом з саламяных блокаў

## Нават калі вы цвёрда наважылі будаваць такі дом, вас яшчэ доўга і неадчэпна будзе перасследаваць пытаннесумнеў: " А што на гэта скажуць людзі?" І ўсё ж...

*...Пачынайце!*



**такі будынак "з саломы" быў узведзены за некалькі дзён у пасёлку Занарач, што ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Жнівень, 1996.*

*Фота: архіў Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі экалогіі.*

Вы далёка не першыя. Нават калі не хадзіць у розныя замежжы, а крыху азірнуцца назад, на практыку сваіх продкаў. Чым крылі хаты браткі-беларусы ў пачатку стагоддзя? Калі не дранкай ды чарапіцай, дык жа саломай акурат! І сёння сустрэнеш дзе-ніздзе хаціну пад саламянай страхой-капялюхам. Пазелянела ад крапінак моху. Паглядзіш і дзіву дасіся – колькі гадоў прастаяла! А вось каб хаты з саломы... Такога ў модзе не было. Чаму? Адказ, бадай, просты: скрозь быў лес, якога хапала, каб зладаваць хату ці хлеў. І не было саламяных блокаў альбо той самай цюкаванай саломы, якую стагуюць пасля жніва. Мабыць, механізацыя цюкавання сцяблоў збожжа ў шчыльна збітыя блокі і падказала просты шлях да такога будаўніцтва.

Першыя саламяныя вёскі з'явіліся прыканцы мінулага стагоддзя ў штаце Небраска (цэнтральная частка ЗША), дзе ўмерана кантынентальны клімат і шмат бязлесных раўнін. Некаторыя з тых пабудоваў дагэтуль стаяць і нават не страцілі ўжытку. Гэта пераважна аднапавярховыя жылыя дамы плошчай 70 кв. метраў. Ёсць звесткі, што тым жа чынам будаваліся магазіны, школы, іншыя памяшканні. Апошнім часам, калі свет загаварыў пра ашчадныя адносіны да прыродных рэсурсаў, ідэя саламянага будаўніцтва набыла новую актуальнасць і развіццё. Да гэтай справы прыхіляецца ўсё больш энтузіястаў, сярод якіх не адно аматары, але і прафесіянальныя будаўнікі. Яны спрабуюць удасканаліць тэхніку будаўніцтва, на справе засведчыць надзейнасць канструкцый з саламяных блокаў.

### Што на справе?

Падрабязна апісваць кожную канструктыўную аперацыю будаўніцтва, пачынаючы ад падмурка і сканчаючы дахам, бадай, няма патрэбы. На гэта ёсць адпаведная дапаможная літаратура. Задача гэтай публікацыі не ў тым, каб даваць дэталёвую інструкцыю, а сказаць пра больш істотнае – што ў нашых умовах гэта і магчыма, і мэтазгодна.

Вось некалькі сціслых звестак пра тэхніку будаўніцтва.

У залежнасці ад прызначэння будынка вам належыць зрабіць выбар паміж к а р к а с н а й (дрэва, жалеза) і б е с к а р к а с н а й канструкцыямі. У першым выпадку каркас запаўняецца саламянымі блокамі (СБ), якія кладуцца ў сцяну традыцыйным парадкам і замест раствору змацоўваюцца паміж сабой вертыкальна ўбітымі завостранымі каламі або прутамі. Бескаркасны прыём куды працейшы, і калі змацаванні рабіць старанна і ўмела, за надзейнасць будынка можна не хвалявацца. Аднак, хто сумняваецца ў якасці такой звязкі, можа ўдала скарыстаць і цэменты ці гліняны раствор. Увогуле, збудаванне сцен пры абодвух варыянтах мала чым розніцца ад напрацаванай практыкі цаглянага будаўніцтва.

Калі мець на ўвазе, што сцяна з СБ досыць лёгкая, канструкцыя п а д м у р о ў к і таксама значна спрашчаецца. Напрыклад, дастаткова зрабіць стаўбчаны (слупковы) падмурак з недарагіх матэрыялаў.

Д а х пабудовы найлепш ладаваць чатырохсхатны і па магчымасці лёгкі. Карніз пажадана спусціць ніжэй, каб лепш затуліць сцены ад разбуральных ападкаў (60 і больш см).

Т ы н к о ў к а сцен – адзін з найважнейшых элементаў будаўніцтва саламянага дома. Колькі стаяць збудаванню, залежыць найперш ад гэтай аперацыі, выбару і якасці раствору. Шырокі ўжытак мае цэментна-вапнавы, хоць досыць часта можна сустрэць энтузіястаў, якія аддаюць сімпатыі глінянай тынкоўцы, нярэдка дамешваючы мякіну і вапну. Перш чым тынкаваць, сцяну абносяць металічнай альбо іншай (цвёрдай) сеткай. Часам, калі блокі-цюкі не вельмі шчыльныя, сценам даюць крыху "сесці", а ўжо затым мяшаюць раствор для тынкоўкі.

### Колькі каштуе?

Сёння кожны гаспадар добра ведае, што будаўнічы матэрыял каштуе добрыя грошы. Не танныя і перавозкі. Салому ж цюкуюць у кожнай гаспадарцы. Закупіць партыю блокаў можна без праблемы, з поля і за нязначную суму. Піламатэрыялы ці цэгла спатрэбяцца толькі на магчымы каркас, дах і ўнутраныя сцены. Кладка саламяных блокаў не патрабуе вялікага майстэрства. Немудрагелістую тэхніку можна асвоіць за лічаныя гадзіны, што дае магчымасць любой сям'і брацца за справу – будаваць сабе жытло альбо лецішча, не чакаючы, што гэта зробіць нехта лепш за вас.

### Энергаэфектыўнасць, надзейнасць, трываласць

Небраскаўцы, якія першымі апрабавалі чароўнасць саламяных вуглоў, заўважалі, што зімою ў такім доме надзіва цёпла, а ў гарачае лета тут заўсёды стаіць прахалода. Цеплапраходнасць саламяных сцен, як вядома, шмат ніжэйшая, чым у звычайных дамах: салома, прыкладам, у 4 разы пераўзыходзіць дрэва, а што да цэглы, дык гаворка ідзе ўжо пра семразовае перавышэнне паказчыка.

Надзейнасць і трываласць саламяных пабудоваў лепшым чынам засведчана зноў жа на іх радзіме. Самым старым з іх у штаце Небраска за сотню гадоў, і ўсе яны ў выдатным стане. Калі разбіралі адзін такі дом, пад слоем тынкоўкі ўбачылі, што салома выглядае быццам учора прывезеная з поля. Паводле эксперыментаў, блокі вытрымліваюць нагрузкі, якія цалкам адпавядаюць патрабаванням бяспекі. Досвед паказаў таксама, што магчымасць загарання саламяных блочных пабудоў ніколькі не большая, чым драўляных. І яшчэ. Калі салома ў блоках добра збітая і сухая, гэта не пакідае шанцаў пасяліцца ў ёй шкоднікам.

Дарэчы, жыхары штата Небраска нярэдка карысталіся нават цюкамі звычайнага сена. Аднак далейшая практыка будаўніцтва паказала, што найлепш браць салому ільну альбо жыта. Дарэчы, і першае, і другое ў Беларусі адвечнае. Як і лес. Аднак трэба ўважаць на тое, што лес расце не гэтак хутка, як лён і жыта.

... І вось вы пачалі. "А што на гэта скажуць людзі?" Вядома, спачатку будуць прыглядацца, можа, крыху пасмейвацца, крытыкаваць, сумнявацца. Але ў рэшце рэшт, ацэняць па заслугах. І ў вас абавязкова знойдуцца паслядоўнікі.

**Браткі беларусы!**

Вясна на падворках...
Вітайце буслоў, што вярнуліся
у край наш, лясны ды азёрны.
да родныя хаты,
да мілага ўлоння прыроды.

Ладкуйце буслянкі.
Цягніце на дрэвы, на вышы будынкаў
бароны ці колы з падводаў –
разнаўсялякі прыдатны рыштунак.

Хай ведаюць птахі:
на гэтай зямлі іх заўсёды чакаюць.
Хай кожны, хто шчасця жадае
сабе і нашчадкам,
саўе яго
разам.

*Зялёнае агенцтва "Неруш-прэс"*

SUMMARY

***T**hese pages will tell you about building houses from straw bales, a readily accessible and highly durable material. The green agency* **Nerush Press** *has included a poster dedicated to the return of the storks. Homes with storks traditionally represent harmony and happiness in Belarusian families.*

*Газета "Белавежская пушча" плануе гэтым летам распачаць уласны эксперымент будаўніцтва дома з саламяных блокаў у Стаўбцоўскім раёне. Месца абрана ўдалае, маляўнічае, непадалёку аўтадарогі Стоўбцы - Нясвіж (праз Новы Свержань). Магчыма, сярод нашых чытачоў, прыхільнікаў ідэі знойдуцца добраахвотнікі, здольныя дапамагчы ў будаўніцтве і добраўпарадкаванні сядзібы. Віды дапамогі неабмежаваныя. Жадаючыя маюць магчымасць скантактавацца з рэдакцыяй і ўзгадніць сумесныя дзеянні. Тэлефануйце альбо пішыце.*

# ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ

EARTH DAY

**22 красавіка** па традыцыі садзяць дрэва ігдэры больш як 140 краін свету. У гэты дзень, які UNESCO абвясціла Днём Зямлі, рыдлёўку й кволае дрэўка бяруць у рукі прэзідэнты і прэм'ер-міністры, кіраўнікі партый і рухаў, куміры і "зоркі". Але свята, вядома, не толькі для іх. Яно для ўсіх нас, хто жыве на зямлі і не жадае, каб здароўе планеты вымагала метадаў рэанімацыі, а было гарантам і грунтам добрага пачування кожнага яе жыхара.

**Напярэдадні Дня зямлі "БП" звярнулася да вядомых людзей Беларусі з пытаннем, ЯКОЕ дрэва яны збіраюцца пасадзіць, альбо чым іншым адзначыць свята агульначалавечай патужнасці на карысць здароўя планеты.**

*Першы, каго спыталі, быў шырока прызнаны палітык з "белавежскім" мінулым прафесар Станіслаў Шушкевіч. Ён ахвотна і шчыра патлумачыў: "Сёлета ў мяне такая прыгода. З самым першым цяплом я пасадзіў на дачы алычу. Трохі пазараніўся, думаў, адпусціла. Цяпер, маючы такую прыгожую падставу як 22 красавіка, з задавальненнем увагу сваю адвечную цягу да ліпы ці дуба. Вазьму і пасаджу. Дзесьці ў прыдатным месцы на лецішчы або ў бліжэйшых ваколіцах.*

*Наступнае тэлефанаванне — міністру знешніх эканамічных сувязяў Міхаілу Марыначу, які, паводле нашых звестак, любіць бавіць час на прыродзе і пры першай магчымасці сядае на ровар. На пытанне БП ён адказаў, што пасаджаным дрэвам будзе яблыня на ягонай дачы.*

*Некалькі субяседнікаў, досыць вядомых персонаў, прызналіся, што пра Дзень Зямлі яны чуюць першы раз і наўрад ці змогуць скарэктаваць свае планы, бо, як зазначылі, выбар дрэва і месца патрабуе часу. Праз год, дакляравалі яны, гэта вельмі магчыма, было б усё добра ў краіне.*

*Прадстаўнік Сусветнага банку ў Беларусі Крыстафер Уолабі прыгадаў, што гады тры таму адзначаў Дзень Зямлі ў Бангладэш — садзіў дрэва. Сёлета ягоны ўдзел у падобнай акцыі ні дома ў ЗША, ні ў Беларусі не запланаваны.*

*Большасць замежных амбасадаў (тых краін, дзе свята мае шматгадовую традыцыю) з прыязнасцю ўспрынялі нашу цікавасць, але ў адказах паслоў не адчувалася энтузіязму. Красамоўная дыпламатыя? Магчыма. Беларуская глеба, відаць, не падае свету прыкметаў для будучай зеляніны на кволым дрэве дэмакратыі, а наша вясна, мусіць, не выглядае на добрыя змены. Для многіх мы, на жаль, безнадзейныя.*

*У гэтай сітуацыі нам, беларусам, нічога не застаецца, як пасадзіць Дрэва Надзеі. Надзеі на саміх сябе. На сваю лепшую будучыню ў свеце. Няхай расце. І свет залюбуецца нашым дрэвам!*



**Гейл Ўорнер**

## Дзевятнаццаць ключоў да шчасьця

*Уставай да таго, як узьнімецца сонца.*
*Пі талую ваду. Еш аўсянку.*
*Разглядвай імхоў пушыстыя шубы.*
*Запамінай імёны расьлінаў.*
*Гуляй і працуй да ламаты ў касьцях, але ня так,*
*каб на зыходзе дня сказаць "няма сілы",*
*а каб побач з каханым пад кронаю дрэва*
*ўслых чытаць вершы,*
*брацца ў рожкі, валтузіцца і рагатаць.*
*Зьнячэўку ня спудзь курапатку.*
*Купайся галышом. Старанна дагдядай зубы.*
*Ня траць больш, чым трэба. Не пакідай*
*сьмецьце і гразь. Задумвай кнігі, але*
*не пішы іх. Калі ж давядзецца весьці бяседу,*
*гавары пра надвор'е, жывёлін, пра рэшткі*
*мінуўшчыны, пра абсталяваньне аранжарэй.*
*Думай аб дзецях. Хадзі басанож.*
*Стань заснавальнікам*
*новых партый. Арганізуй суполку.*
*Паеўшы, памый за сабою посуд.*

# Кволая не Зямля...

## Устойлівасць развіцця на змену халоднай вайне

Краіны Зямлі ўсё больш разумеюць неабходнасць устойлівага развіцця як аднаго з асноўных элементаў міжнароднага супрацоўніцтва ў эпоху пасля халоднай вайны.

Устойлівае развіццё азначае, што людзі, грамадствы павінны дамагацца эканамічнага росту комплексам захадаў і ўсяляк абараняць навакольнае асяроддзе, спрыяць выяўленню магчымасцей чалавека і шанаваць дэмакратычныя каштоўнасці, паляпшаць якасць жыцця сённяшніх пакаленняў і ствараць спрыяльныя перспектывы для пакаленняў, якія прыйдуць на змену.

Кволая не Зямля. Кволыя мы самі. Прырода вытрымала катастрофы куды больш страшныя за тыя, якія справакавалі мы. Нішто з таго, што мы робім, не загубіць прыроду. Але мы лёгка можам загубіць самі сябе.

Рост насельніцтва на Зямлі перасягнуў усе магчымыя меркі – складае 100 мільёнаў чалавек на год. Іншымі словамі, кожны месяц з'яўляецца яшчэ адзін Нью-Йорк, кожны год – яшчэ адна Мексіка, кожнае дзесяцігоддзе – яшчэ адзін Кітай. 95 працэнтаў гэтага прыросту адбываецца ў бедных краінах трэцяга свету, якія ўжо мусяць змагацца за месца працы і самыя звыклыя ўмовы жыцця для сваіх грамадзянаў.

Прамыслова развітыя краіны нясуць вялікую долю адказнасці як за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, так і за хуткія тэмпы ператварэння іх у адходы. Складаючы толькі пятую частку насельніцтва Зямлі, яны выкарыстоўваюць дзве трэці ўсіх рэсурсаў і вырабляюць чатыры пятых забруджвальных рэчываў і адходаў, якія прадукуюцца ў свеце.

Як на Захадзе, так і на Ўсходзе людзі ўсё больш асэнсоўваюць, што ўзровень жыцця на Зямлі залежыць не адно ад грашовага і духоўнага свету; што для жыцця яшчэ важныя і паветра, якім яны дыхаюць, вада, якую яны п'юць, здаровая глеба і неразбураныя ландшафты.

SUMMARY

*What kind of trees do famous people intend to plant on April 22 in Belarus? Replies from well-known people of Belarus.*

# «Чалавек заўжды мае шанец застацца сам-насам з прыродай...»

## Нам пісалі, тэлефанавалі

***КОЛА – так назвалі мы рубрыку зваротнай сувязі з чытачамі. Хоць рэдакцыя яшчэ не можа пахваліцца колькасцю водгукаў на свае першыя выпускі, абнадзейвае іншае: колазварот падае ўжо прыкметы рухомасці. Гэты рух мы і паспрабавалі засведчыць старонкай. Чакаем вашых лістоў, прапаноў, уражанняў.***

**В**аша газета без «солі». Ёсці можна, але... На аматара. На вегетарыянца. Яшчэ, можа для настаўнікаў, якім гэта спатрэбіцца для ўрока.

***Сяргей Баркун, Брэст***

**Я** киоскер. Когда получаю вашу газету, сразу выкладываю вперед, чтобы заметили. Понимаю, дело нужное. Но большинство людей спрашивают анекдоты, кроссворды или «проверенные» старые издания. И еще. Ваше издание малоизвестное. Его замечают либо самые любознательные, либо те, кто вас знает и уже ищет вашу газету. Но таких, к сожалению, крайне мало.

***Елена, Минск***

**П**рэсы цяпер шмат. Не тое, што калісьці. Але такой газеты як ваша, я не бачыў. З любоўю да ўлоння... Гэта ж як нейкая малітва, стан душы, запавет. Зусім іншы, нябудзённы погляд на прыроду, на тое, што заўсёды побач. Не ведаю, ці захоча сучасны чалавек любіць прыроду так, каб добра было не адно яму, але і ўлонню.

***Пётр Сільвановіч, Мядзель***

**И**здание очень нужное, перспективное. Однако, мне кажется, тур между номерами не в меру продолжительный. Забываешь, что подписался. Хотя бы один раз в месяц – это было бы и достаточно, и не расточительно.

***Андрэй Макарэвіч, Мінск***

**З** першых нумароў відаць, што газета развіваецца, шукае, фарміруецца.Але пажадана, каб рэдакцыя не забывалася і на першыя свае рубрыкі, ад якіх ідзе цяпло і энергія прыцягальнасці, — «Альбом», «Патрыётыка», «Лад».

***Уладзімір Сцяцко, Баранавіцкі раён***

**М**яне ўразіла задума і ўся будова газеты. Гэта тое, чаго нестае ў нашым перыядычным друку. Наколькі разумею, газета не абцяжараная інерцыяй аглядкі на ведамствы, бо заснавана прыватнай асобай. Відаць, таму і выходзіць рэдка. Але шукайце сумленных спонсараў, у якіх жыве грамадзянскае сумленне і якія дапамогуць вам грашыма. На жаль, сам я жыву з пенсіі і магу толькі даваць парады.

***Яўген Малцянік, г. Мазыр***

**Г**азета оставляет приятное впечатление. Улавливается волнение, душевный трепет большинства публикаций. Номер – от начала и до конца – выстрадан. Такое издание требует и от читателя определенной волны. Но время ведь трудное, кому-то и не до лирики. Поэтому «овладеть массами», завоевать аудиторию будет нелегко. Желаю удачи!

***Сергей Бондарев, режиссер***



**ТАНЕЦ.** *Здымак з канверта.*

*Аўтар Валерый Салаўёў, фотакарэспандэнт газеты “Дзвінская праўда” (Верхнедзвінск). З удачай,Валерый! Здымак нам спадабаўся. Дарэчы, як і верш Эдуарда Зубрыцкага ў тым жа канверце. Аднак пачакаем восені, ягоныя радкі больш сугучныя настрою гэтай часіны. Дзякуй за водгук, Валерый і Эдуард!*

**Ч**еловек всегда имеет шанс остаться наедине с природой. Успокоиться. Отойти от будничной круговерти. За этот удивительный «уголок» человеческой вселенной и борется (не то слово, но более мягкого не нахожу) ваша газета. Мне нравится также, что она вся выдержана в хорошей (приятной) манере исполнения. Даже на белую бумагу невольно обращаешь внимание, так как и она, что называется, делает газете «лицо».

***Вольга Вяслоўская, настаўніца(на пенсіі)***

**П**ра Вашу газету ведаюць на Нясвіжчыне, пару чалавек нават выпісваюць. Я таксама чытаў, трапляласся ў рукі. Але сёння прапіхнуць такую газету ў масы вельмі цяжка. Здаецца, людзі не хочуць заўважаць «бясцэнныя» каштоўнасці. Паглядзіце, колькі навокал смецця, рознага бруду. Нават на могілках, не кажучы пра лес ці рачулку. Гэта сведчыць пра псіхалогію, хранічную хваробу.

Але ёсць і здаровы пласт, не ўсе плююць сабе пад ногі. Можа, яны і дапамогуць вам выжыць. Найлепш гэта зробяць настаўнікі, раённыя журналісты, краязнаўцы. Няхай чытаюць і прапагандуюць вашу газету. Дай Бог вам удачы!

***Іван Стахно, служачы***



**С**читаю, редакция правильно сделала, што перешла на «школьный» вариянт правописания. Так называемый «дореформенный» мешал воспринимать содержание. Не все ведь сразу. Пусть люди сначала вспомнят то, что они изучали в школе. Вы же предложили им резко другое – что забыли целые поколения. Честное слово, я рада за вас. Вы осознали свою поспешность. Мне стало легче, я с удовольствием буду читать и пропагандировать ваше интересное издание.

***Нина Лисовская, Заславль***

**А**трымаў першы нумар газеты за гэты год. Прачытаў, як кажуць, «ад і да». Ладная газета, з чым Вас і віншую. Зычу выданню зялёнага шляху да масавага чытача.

***Аляксей Буйкевіч, в.Свяціца Ляхавіцкі раён***

**Д**авялося бачыць адзін нумар «Белавежскай пушчы», які неяк выпадкова трапіў у ЗША.

Газета атрымалася надзвычайная й па форме, і па змесьце. Здаецца, яшчэ не было ў Беларусі выданьня, якое б канцэптуальна зьвязвала прыродны сьвет Бацькаўшчыны з прыродай, так бы мовіць, духу. Хоць бясспрэчна, прырода, быт і дух нацыі ўзаемна дэтэрмінуюцца.

Было (мо і зараз ёсьць) украінскае выданьне «Ліс», дзе пытаньні прыроды, экалёгіі ўзаемна ўвязаныя з праблемай духоўнага разьвіцьця нацыі.

Нешта падобнае стараўся рабіць (хоць і нядоўга) часопіс «Родная прырода». Таму зычу натхненьня і посьпехаў у вашай новай працы.

***Юры Васілеўскі, Нью-Ёрк***

**Д**обра, што газета ўзялася за папулярызацыю прыродных каштоўнасцяў.

Ідэя прыродалюбнасці, можа, і не новая, затое прадуктыўная, карысная. Сёння, відаць, няма чалавека, які б сказаў, што ён не любіць прыроду. Але гэтае пачуццё трэба ўсяляк развіваць, падахвочваць чалавека да такіх кантактаў з прыродай, якія б яго ўзбагачалі духоўна, рабілі свядомым заступнікам усяго жывога.

Бачу, што газета сур'ёзна паставілася да свайго выбару. Асабліва хачу адзначыць ролю ілюстрацый, увогуле яе знешні выгляд. Думаю, пра такое выданне павінна праявіць клопат і дзяржава, шырокая грамадскасць.

***Мікалай Шырокі, паліграфіст***

SUMMARY

***Readers' comments on their first impressions about the newspaper, its role and its place on the modern information arena.***

# БЕЛАЯ ВЕЖА BELAYA VEZHA

## Выбар

### Хочаш змяніцца і змяніць свет да лепшага – сядай на ровар!

Ёсць гарады, дзе праходкі і ровар застаюцца найпершай формай перамяшчэння, на жаль, такіх гарадоў вельмі мала. Таму сёння, бадай, немагчыма сур'ёзна змагацца з брудным паветрам, калі рашуча не перавесці ўвагу на атрутныя выкіды ад матацыклаў, мапедаў, машын, грузавікоў і аўтобусаў. Нават там, дзе ровар мае пашану, колькасць аўто расце вельмі хутка. Сусветны парк транспартных сродкаў складае ўжо 500 мільёнаў адзінак. Аднак праз сорак гадоў, паводле прагнозаў, ён узрасце яшчэ ўдвая і дасягне мільярда. Попыт, перш-наперш у краінах, якія развіваюцца, таксама будзе павялічвацца, — тут ён перавысіць 200 працэнтаў не далей



як праз 2-3 гады. Ці вытрымае такія нагрузкі горад, дзе праблема забруджання паветра вострая і без таго?

Свінец, якім дыхае на нас бензінавы транспарт, з'яўляецца тым асабліва небяспечным цяжкім металам, што адбіваецца пераш-наперш на дзецях -- парушае разумовае развіццё, тармозіць рост, пагаршае слых і гаворку. Нават нізкія канцэнтрацыі даюць цяжкі вынік, які, часцей за ўсё, з горычу канстатуюць школьныя педагогі, - аслабленасць галавы, інтэлекту дзяцей.

Пыл, "запраўлены" свінцом, застаецца ў навакольным асяроддзі доўгія гады, нават дзесяцігоддзі. Гэта значыць, калі сёння мы дружна перасядзем у экалагічна чысты транспарт, глытаць свінец з пылам давядзецца доўга.

І ўсё ж надзея ёсць. Попыт на легкавыя машыны можна стрымаць, напрыклад, выпускаючы добрыя і даступныя па цане веласіпеды. На вуліцах беларускіх гарадоў апошнім часам з'явілася шмат аматараў ціхага транспарту. Ровар памалу робіцца папулярным і гэты працэс пойдзе шпарчэй, калі яго падтрымае ўрад. Будаўніцтва веладарожак, адмысловых стаянак, фірмаў пракату і нават велагаражоў можа істотна паўплываць на выбар людзей. Лепш, калі ён прадыктаваны не сціплымі матэрыяльнымі магчымасцямі, а жаданнем кожнага з нас істотна змяніць свет да лепшага. *Крыніца: замежны друк, уласная інфармацыя.*

*ніхто не аспрэчыць той факт, што сваё годнае месца сярод 800 мільёнаў веласіпедаў, якія ёсць на планеце, займае і наш мінскі ровар. Гэты здымак зроблены на дарогах братняй Польшчы (1994).

*Фота: Неруш-прэс*




## Клімат

### Пацяпленне падаецца пагрозай, не меншай, чым ядзерная вайна

Больш за паўстагоддзя як вучоныя свету гавораць пра змены клімату ў выніку непрадуманай прамысловай вытворчасці, што тоіць небяспеку для ўсёй сусветнай супольнасці.

Адмоўнае значнае ўздзеянне на клімат робяць выкіды гэтак званых парніковых газаў падчас прамысловага скарыстання вугалю, нафты, прыроднага газу альбо -- з-за шырокага распаўсюджання — вытворчасці цэменту і інш.

Вучоныя занепакоены ўплывам глабальных змяненняў клімату на здароўе людзей. Гэтая небяспека ўжо побач з намі, канстатуюць яны. Мы перад фактам шырокамаштабнага пераразмеркавання тэрыторый жыхарства жывёл і раслінаў, мошак і мікраарганізмаў, якія пераносяць інфекцыі, ствараючы ўсё новыя ачагі небяспекі. Павелічэнне маштабаў інфекцыйных захворванняў, такіх як, прыкладам, малярыя, ёсць,паводле прадказванняў, найбольш частым вынікам зменаў клімату.

Адзін з адмысловых Міжурадавай камісіі па зменах клімату папярэджвае, што на пэўнай стадыі ціск гэтых зменаў на здароўе грамадства можа стацца такім значным, што супрацьстаяць яму будзе немагчыма. Напрыклад, нельга недаацэньваць сітуацыю, пры якой хваля бежанцаў, узнятая кліматычнымі анамаліямі, здольная падарваць тую сістэму аховы здароўя, якая ўсталявалася, павялічыць нагрузкі на інфраструктуру, харчовыя і водныя рэсурсы. "*Мы маем справу з праблемай, якая ўяўляе пагрозу, магчыма, не меншую за ядзерную вайну*" – такая думка нярэдка гучыць на самітах.

Ці будзе пацяпленне клімату паскарацца? Вучоныя схіляюцца да высновы, што гэта магчыма з-за гібелі дрэў на вялікіх тэрыторыях і хуткага распаду арганічнай матэрыі. Як вынік – мільярды тон дадатковага вугляроду, якія вызваляюцца коштам гарэння і гніення біямасы, будуць накіроўвацца ў атмасферу, паскараючы тэмпы змяненняў. *Крыніца: дасье "Неруш-прэс".*

## Атмасфера

### Так лічаць дасведчаныя японцы

Цікавую падказку ўсім, хто заклапочаны паляпшэннем атмасферы за найкарацейшы тэрмін, зрабілі супрацоўнікі аднаго даследчага інстытута Японіі. Яны прапанавалі скараціць спажыванне ялавічыны развітымі краінамі на 20 працэнтаў. Менавіта такім чынам, лічаць на падставе шматлікіх разлікаў і назіранняў дасведчаныя японцы, можна зменшыць пагалоўе бычкоў, якія актыўна паглынаюць кіслярод і псуюць атмасферу, на 78 млн. галоў. Вызваляюцца і пашы (145 млн. гектараў),іх можна было б засадзіць дрэвамі, а вось дрэвы – тыя здольныя паглынуць 520 млн. тон вуглякіслага газу. Амаль на 10 працэнтаў паменшыцца выкід вуглекіслаты, зробяцца "лішнімі" 26,8 млн. тон збожжа, якіх дастаткова,каб пракарміць 134 млн. галодных людзей.

Разлікі грунтуюцца на матэрыялах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая засведчыла, што ў ЗША і еўрапейскіх краінах 37 працэнтаў каларыйнага меню прыпадае на тлушчы жывёльнага паходжання, г.зн. на мяса і "блізкія" да яго прадукты (у Японіі толькі 25), што не з'яўляецца добрым паказчыкам. Медыкі раяць знізіць яго мінімум да 30 працэнтаў.

Паводле японскай версіі, змяншэнне ялавічыны ў меню пойдзе толькі на карысць: здаравейшымі стануць людзі, а паветра прыкметна пасвяжэе. *Крыніца: замежны друк.*

## Вецер

### Гаспадарлівы беларус заўсёды марыў пра свой вятрак

Ветравыя электрастанцыі (ВЭС) будуюцца ва ўсіх кутках свету. Два гады таму (сакавік, 1995) "лепшая дзесятка" свету паводле сумарнай магутнасці ветраўстановак (МВт) выглядала такім чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | ЗША... | 1717 |
| 2. | Германія | 643 |
| 3. | Данія | 540 |
| 4. | Індыя | 182 |
| 5. | Нідэрланды | 153 |
| 6. | Вялікабрытанія | 147 |
| 7. | Гішпанія | 72 |
| 8. | Швецыя | 38 |
| 9. | Кітай | 30 |
| 10. | Грэцыя | 28 |

Большасць усіх ветравых турбін свету вырабляецца, між іншым, у Еўропе. Ды і клімат дастаткова прыдатны для скарыстання энергіі ветру. Знаўцы гавораць, што дзесятая частка ўсёй патрэбы Еўрапейскай супольнасці ў электрыцы можа быць пакрытая гадоў і нават менш. А дзейнасць ветраўстановак запатрабавала б 50000 дадатковых працоўных месцаў, што таксама надзвычай істотна. *Крыніца: прэсавыя рэлізы, замежны друк.*



* *Гэты вятрак, выраблены беларускімі майстрамі, спыніў хаду колькі дзесяткаў гадоў таму з-за поўнай сваёй "непатрэбнасці". Пружаны, 1980.*

*Фота: з архіва "Неруш-прэс"*

## Эксперыменты

### Рыбін тлушч – яскравы прыклад забруджанага сусвету?

Менавіта ён, наш даўні знаёмца рыбін тлушч ператварыўся ў яд – сведчаць вынікі даследавання, якое правялі эксперты сусветна вядомай арганізацыі "Грынпіс". Яны зрабілі аналіз 22 відаў гэтай прадукцыі. Дзіўна тое, што 17 з іх прадаюцца як дыетычнае харчаванне ў Нарвегіі, Японіі, Гішпаніі, Вялікабрытаніі, Ісландыі і Германіі.

21 проба мела павышаныя канцэнтрацыі высокатаксічных рэчываў – хлорарганічных пестыцыдаў -- ДДТ і ліндана, а таксама поліхлорбіфенілаў (ПХБ). Калі пацыент прыме дараджаную доктарам меру забруджанага рыбінага тлушчу, ягоны арганізм атрымае колькасць ПХБ, якая перавышае дапушчальную сутачную дозу ў 128 разоў.

Даследванне ўпершыню паказвае шлях, якім небяспечныя рэчывы апынаюцца ў нашым арганізме.Супертаксіканты найперш патрапляюць у моры з вадою рэк, сцёкамі прымысловых прадпрыемстваў і далей разносяцца воднымі токамі ў самыя аддаленыя куткі Сусветнага акіяна. Праз харчовыя ланцугі яны пранікаюць у арганізм рыб, у тым ліку траскі – найпершага пастаўшчыка рыбінага тлушчу, які скарыстоўваецца для вытворчасці бісквіта, марожанага, маргарына.

Хлорарганічныя злучэнні назапашваюцца ў крыві, грудным малацэ, мышцах і тлушчавых тканках, выклікаючы бясплоддзе, уроджаныя дэфекты, гарманальныя парушэнні, ракавыя захворванні.

Правільна кажуць: "*Свет цесны*". Згадаем і філасофскае: "*Усё звязана з усім*". *Крыніца: замежны друк.*

## Этнасы

### Будзьце абачлівыя, калі сваім блізкім жадаеце "сібірскага здароўя"

"*Няма больш сібірскага характара і сібірскага здароўя – усё загублена,-* б'е ў набат 65-гадовая жыхарка з Краснаярска. – *Сібіракі цяпер жывуць на 10-15 гадоў менш, чым людзі ў еўрапейскім абшары Расіі.*" Сярод розных прычын дэградацыі этнасу аўтарка называе стан навакольнага асяроддзя і п'янства жыхароў краю.

Маскоўская газета "*Зялёны мір*", якая надрукавала крык жаночай душы, суправаджае публікацыю выказваннем Рольфа Эдберга: "*Наша слабасць палягала на тым... што мы не ўзнялі бунт і не прымусілі рулявых на мастку абраць больш абачлівы курс*".




## N ota-bene

### Дзве цытаты

«Падахоўныя плошчы, якімі б важнымі яны ні былі, самі па сабе не з'яўляюцца дастатковымі для захавання біялагічнай разнастайнасці. Створаныя, як правіла, цалкам штучна, яны ў сельскім асяроддзі хутка трацяць частку «сваіх» відаў і рызыкуюць за больш ці менш працяглы тэрмін знікнуць дарэшты альбо стаць *«абсалютна ізаляванымі запаведнікамі».*

Вось чаму пільную актуальнасць у захаванні біялагічнай разнастайнасці маюць зберажэнне і абнаўленне прыродных асяродкаў жыцця за межамі падахоўных раёнаў, перадусім – «вяртанне ў прыроду» прапарцыянальнай часткі сельскай мясцовасці».

«... «глеба», на якой прыкладваецца камунікацыя, павінна выбірацца з надзвычайнай стараннасцю; зразумела, запаведныя раёны з'яўляюцца як бы прывілеяванымі на «палях бітваў», але варта не забываць, што ўвесь грунт пытання (і грамадскасць мусіць усведамляць гэта) палягае на тым, што жывую прыроду трэба абараняць усюды, дзе такая абарона магчымая». *Крыніца: «Ахова прыроды ў Еўропе. Усеахопная стратэгія кантынентальнага маштабу: некаторыя важныя аспекты». Панеўрапейская канферэнцыя «Навакольнае асяроддзе для Еўропы». Люцэрн, 28-30 красавіка 1993.*

**Замест каментарыя.** Адзін з найважных еўрапейскіх дакументаў прыродаахоўнага кшталту актуалізуе ці не самае галоўнае ў цяперашняй Беларусі: ідзе наступ на «жывую прыроду», пачынаючы ад «камунікацый» дачных участкаў на берагах ціхіх азёр і рэчак і канчаючы пляцоўкай пад атамную электрастанцыю.

## K веткі раю

### Кава з малачаю, парашок з крапівы

З падсмажаных карэньчыкаў малачаю, называнага яшчэ багаткамі, гатуюць напой кшталту кавы, які, не валодаючы ўзбуджальным дзеяннем кавы, станоўча ўплывае на арганізм чалавека.

Робяць гэта так. Карэнні трэба добра памыць, разрэзаць уздоўж, высушыць і падсмажыць у духоўцы да пачырванення і пахруствання. Цукар, на які багатыя карэньчыкі, пры падсмажванні карамелізуецца. З духмяных і саладкаватых карэньчыкаў можна згатаваць гарбату, а можна змалоць у кавамолцы і заварыць як каву.

Цяпер што да крапівы. Гэтай вітамінай карыснай расліне прысвячаюць нават оды. І...ахвотна дабаўляюць у салаты, кідаюць у супы. Калі першая страва гарачая, крапіву кладуць апошняй, перад самай падачай на стол – каб у натуральным выглядзе захаваць як мага больш фізіялагічна актыўных рэчываў.

З крапівы яшчэ робяць пажыўны парашок. Лісты і сцябліны сушаць у цяні. Тоўстыя і цвёрдыя сцяблы выкідаюць. Астатняе здрабняюць на парашок і прасейваюць на сіта. Скарыстоўваюць для прыгатавання соусаў, яечні, розных кашаў, аладак. Паспрабуйце,пакаштуйце. *Крыніца: папулярная літаратура, перыёдыка.*

## П асадзі !

### Дзе шмат ядлоўцу, там шмат эфірных злучэнняў

Хто быў у лесе, той ведае *ядловец (ялавец, хвойнік).* Густая – не ўсунеш руку – калючая крона сваім выглядам нагадвае полымца свечкі. Адметнае дрэва. І вельмі карыснае, пекнае.



Там, дзе расце шмат ядлоўцу, паветра вельмі чыстае, водарнае, гаючае. Дрэва, як сведчаць лесаводы, інтэнсіўна ачышчае прызямны слой ад небяспечных хваробатворных мікраарганізмаў. Санітарная служба зафіксавала, што дзялянка ядлоўцу плошчай 1 гектар за дзень добрага надвор'я здольная прадукаваць да 30 кг фітанцыдаў. Дактары называюць зараснікі ядлоўцу жывыміляснымі кандыцыянерамі. А добраўпарадчыкі гарадоў і мястэчак падлічылі, што такая колькасць эфірных злучэнняў дастатковая для аздараўлення цэлых жылых кварталаў.

Аднак ядловец пакуль што рэдка садзяць на асабістых сядзібах, лецішчах, у садах і парках. Зяленых пірамідак магло быць куды больш у летніках, дамах адпачынку, бальнічных гарадках, уздоўж ціхіх дарог і алей, побач з іншымі дрэвамі.

Хто мае дзялянку зямлі, можа заўтра ж побач з ганкам закласці ядлаўцовую палянку (круг дыяметрам 5-8 метраў з 10-15 дрэў) і праз колькі гадоў лячыцца бактэрыцыдным ядлаўцовым паветрам, расслабіўшыся ў шэзлонгу.

Варта дадаць, што з ягад ядлоўцу выпарваюць сок (на сіроп). А дымам з духмяных лапак расліны "аздабляюць" каўбасы і сала. І яшчэ. Хто хоча завабіць да сябе на ўлонне драздоў, садзіце кусты ядлоўцу: ягоныя шышкаягады – улюбёны спажытак многіх лясных птушак. *Крыніца: папулярная літаратура, перыёдыка*

## Д а запатрабавання

### Гэта ваша права...

Грамадская арганізацыя "ЭкаПрава-Харкаў" зладзіла і прапануе для бясплатнай замовы выпуск "Эколага-прававога весніка". Гэта дапаможнік, які можа прыдацца кожнаму прыродазаступніку. На канкрэтным прыкладзе паказаны разгляд судовай справы па зыску грамадзяніна да дзяржаўнага прадпрыемства, якое парушае экалагічныя правы чалавека на бяспечнае для жыцця і здароўя навакольнае асяроддзе. Падаюцца дакументы, якія могуць быць дарэчы ў якасці ўзораў пры падрыхтоўцы зыскавых заяў і інш. падчас спраў у раённых і абласных судах. "Экаправа-Харкаў" бясплатна перашле вам гэтае выданне, калі вы падасце сваю замову на адрас: Украіна, 310202 г. Харкаў, а/я 2050, тэл. (0572) 234-047, факс (0572) 128557. *Крыніца: Інфармацыйны бюлетэнь ISAR -Кіеў.*

## SUMMARY

*This news page contains sections entitled Choice (on the benefits of cycling), Wind (on renewable sources of energy), Climate (on the consequences of global warming), Ethnos, Nota Bene, etc. There is also a cautionary poster about the dangers of setting fire to dry grass in early Spring.*

# ТВОЙ ВОСТРАЎ

YOUR ISLAND

***Я** к толькі растуляцца першыя кветкі зямлі і ў дрэвах зашуміць зеляніна, ЗВАЖАЙ: гэта значыць, прырода кліча нас на вясновае свята, на ТВОЙ ВОСТРАЎ.*

*Запас энергіі можна дабраць у любога дрэва-донара, якое вам даспадобы, з якім прыемна і ўтульна. Аднак ёсць адно агульнае правіла: выбірайце для энергетычных стасункаў толькі здаровае ладнае дрэва, у спрыяльным незабруджаным асяроддзі. Гэтае правіла ёсць і добрай надзеяй і добрым стымулам: будзем шанаваць і берагчы наваколле, зычліва і дбайна даглядаць дрэвы, памятаць, што іхні стан і настрой здольныя дапамагаць нам.*

## Вазьмі ў дуба, аддай вярбе

**Уладзімір Галубкоў,**
**кандыдат біялагічных навук**

### Увага: біяполе!

Спачатку паназірайце. Магутныя дрэвы, здольныя сілкаваць нас гаючай энергіяй, не маюць паблізу суседзяў, трымаюцца на дыстанцыі. А тыя, што растуць цяснейшым гуртам (6-8 метраў), як правіла, з'яўляюцца дробнымі ўладальнікамі энергетычных запасаў. Рэч у тым, што ў кожным асобным выпадку мы маем справу з біяполем – жыццёвай прасторай дрэва. Гэта можна адчуць на простым доследзе. Калі паднесці далонь да дрэва, стоячы ў 2-3 метрах ад яго, у першым выпадку вы адчуеце павышаную порсткасць прасторы, цеплыню і нават пакалванне. Гэта і ёсць біяполе, якое дрэвы ахоўваюць, унікаючы хаосу і смецця.



Фота: Неруш-прэс

### Дуб ці пальма?

У папярэднім выпуску мы гаварылі, што кожнаму з нас спадарожнічае сваё "задыякальнае" дрэва (Ільвам, напрыклад, дуб, Стральцам – пальма і г.д.). Аднак запас энергіі можна дабраць ад любога дрэва-донара, якое вам даспадобы, з якім вам прыемна і ўтульна. Варта толькі не забывацца, што здаровы чалавек павінен скарыстоўваць дары энергаёмістых дрэваў-донараў, а хвораму належыць ладзіць зносіны ў пошуках палёгкі пад шатамі дрэваў -- спажывальнікаў чужой энергіі.

### Пошук на мясцовасці

Дрэва трэба знаходзіць у спрыяльным здаровым асяроддзі. Найлепш гэта незасмечаны лес, а таксама санаторый, чысты парк ці проста ўдалае месца, дзе вы працуеце або жывяце. Дрэвы, як і людзі, хварэюць. Выбірайце здаровае ладнае дрэва, якое сімвалізуе зямную красу, моц і радасць жыцця. Пасябруйце з гэтым дрэвам, дапамажыце пры магчымасці слабому і хвораму. Аднак вазьміце за правіла: сілкавацца ці "скідваць" дрэнную энергетыку трэба толькі ў зносінах з непашкоджаным дрэвам.

### Тэхніка стасункаў

Ёсць шмат спосабаў энергасілкавання. Найбольш эфектыўны, бадай, такі. Станьце спіной да дрэва, прытуліцеся да яго ўсім целам. Абхапіце дрэва далонямі. Расслабцеся і ўявіце, як праз кожную кропку судакранання ваша цела прасякваецца чыстай серабрыста-белай энергіяй. Каб узяць яе дастатковую колькасць, вам хопіць і трох мінут. Падзячце дрэва за ягоную ласку і шчодрасць. Вазьміце за правіла і заўсёды падыходзьце да вашага аблюбенца з пачуццямі радасці, пяшчоты і поўнага даверу.

### Асіна, каштан, таполя...

Калі блага і некамфортна, скантактуйцеся з асінай, каштанам, таполяй, елкай. Гэтыя дрэвы з'яўляюцца найбольш моцнымі спажывальнікамі чужой энергіі энергавампіры). Іх можна скарыстоўваць, у прыватнасці, для прачысткі энергетычных каналаў, зняцця раздражнення, запаленчых працэсаў, лячэння розных хваробаў. Зносіны з імі такія ж самыя, што і з дрэвамі-донарамі. Хіба толькі з той розніцай, што падчас сеансаў трэба ўяўляць, як з вашага цела сыходзіць усё благое, што замінала вам. У рэшце рэшт, вы адчуеце і палёгку, і слабасць. Слабасць ад нястачы энергіі, якую ў вас забрала дрэва. Таму тут жа скарыстайцеся паслугамі дрэва-донара, звярніцеся да бярозы ці дуба, вяза ці клёна, ясеня або сасны ( натуральна, энергетыку гэтых дрэваў скарыстоўваюць і ў добрым здароўі). Пабудзьце каля іх 3-5 мінут, пакуль арганізм не дабярэ браку энергіі, не кампенсуе вашы сілы.

Напаследак выкажу агульнае пажаданне. Прыходзьце да вашага дрэва не абцяжаранымі пабочнымі думкамі, а ў добрым зычлівым настроі, з пачуццямі радасці і пяшчоты, з любоўю да ўлоння прыроды. Давярцеся дрэву, але не памыліцеся ў выбары. Да сустрэчы!

SUMMARY

***B**iologist Vladimir Golubkov continues this talk on the bioenergetic qualities of plants, inviting readers to take part in a dialogue with trees that are energy vampires.*

## Колькі слоў на развітанне

З гэтага нумару *"БП"* пачынае падзіць выпускі серыі *"Аўтограф"* (газета ў газеце). На чатырох старонках вы можаце цудоўна заявіць пра сябе — папулярна і падрабязна прадставіць тую ці іншую мясціну-тэрыторыю ( не абавязкова запаведнік ці нацыянальны парк), помнік прыроды, аб`ект культурнай спадчыны, экалагічны праект, кірунак прыродаахоўнай дзейнасці і г.д. Ваш *"Аўтограф"* прачытаюць не толькі ў Беларусі, але за яе межамі. Чакаем прапаноў.

Тым часам — вясна, і на парозе лета. Гэтую пару ўважаюць за самую прыгожую і цікавую ў коле года. Не прапускайце магчымасці пабыць сам-насам з прыродай, дзесьці за горадам — паслухаць птушак, паглядзець на маладую траву, адчуць гармонію душы з адцалелым светам нашых ваколіц.

Добрых светлых уражанняў!

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"
* год выдання трэці, 1997 №2 /5/
* рэгістрацыйны нумар 125, наклад 3000 асобнікаў, кошт дамоўны

Тэхнічная група: Цімох Дранчук, Аляксандра Маркава, Уладзя Ляская
Афармленне, макет: Валерый Дранчук.
Падпісана ў друк 22.04.97.
Пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Рэдакцыя пакідае за аўтарамі магчымасць вольна выказваць свае думкі і меркаванні, гэтак жа як і несці адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

**ЭКААПЕКА - 97.** *Калі вы заможны чалавек і вам падабаецца газета "Белавежская пушча", вы можаце ахвяраваць на яе магчымыя сродкі. Загадзя ўдзячныя.*

"BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA" Belarussian Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Love to Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH- PRESS"
Contact: 220088 MINSK Ivanovskaya 38 - 16 Phone (0172) 36-50-76